*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 20 (180) ◈ 18 траўня 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.


## ПОСТУП ТЫДНЯ

***СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ ПАДЧАС СУСТРЭЧЫ З ПРАФЕСУРАЙ МЕНСКІХ ВНУ СКАЗАЎ АБ АБ'ЯДНАННІ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ:** «Але, калі хочаце, скажу чэсна: падспудна ў час гутарак з расійскімі кіраўнікамі адчувалася такая думка — «Мы пачакаем, хто ў вас будзе прэзідэнтам...» У дакуменце, які падпісаны першым намеснікам прэм'ера Расіі Алегам Саскаўцом, значыцца тэрмін. Дзевяць артыкулаў уступаюць у сілу да 31 ліпеня ўключна. Заўважце, гэты тэрмін выбраны невыпадкова... Будзем прама гаварыць: нават тое, што сёння існуе, у выпадку нейкіх праколаў у нас на прэзідэнцкіх выбарах можа прывесці да таго, што саюз гэты можа і не адбыцца». «Пракол» будзе тады, калі В. Кебіча не выберуць прэзідэнтам?*

**НА АФІЦЫЙНЫ ЗАПЫТ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ** ў праўленне Нацыянальнага банка краіны з просьбай выказаць сваю пазіцыю па дагавору аб аб'яднанні дзвюх грашовых сістэм быў атрыманы адказ з крытычнай ацэнкай уяўных выгад аб'яднання. Кіраўніцтва Нацбанка пераканана, што ўтрыманне на тэрыторыі рэспублікі расійскіх войск і забеспячэнне бесперашкоднага транзіту расійскай сыравіны і тавараў з лішкам «кампенсуе» бюджэту Беларусі ўсе выгады ад абмену рублёў і «зайцаў».

***ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ПРЫНЯЛО РАШЭННЕ** аб аднаўленні нацыянальнай святыні Беларусі — Крыжа Ефрасінні Полацкай, які знік у час другой сусветнай вайны.*

***У ПРЭЗІДЭНЦКАЙ ГОНЦЫ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА, ВЫКОНВАЮЧЫ РАШЭННЕ СВЯШЧЭННАГА СІНОДА, ЗАЙМАЕ ПАЗІЦЫЮ ПАБОЧНЫХ НАЗІРАЛЬНІКАЎ.***

***ПА ЗВЕСТКАХ РІД З 48 ДЫРЭКТАРАЎ СЯРЭДНІХ ШКОЛ ГОМЕЛЯ 11 НЕ ВЫТРЫМАЛІ ЭКЗАМЕНУ НА ВЕДАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ,** які праводзіў па рашэнні ўпраўлення адукацыі абласны Інстытут удасканалення настаўнікаў. Такое выпрабаванне трэба прайсці і намеснікам дырэктараў па навуковай і выхаваўчай рабоце.*

## ПЕРШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ»

адбылася 4—5 траўня 1994 г. у Менску. Яна ладжана Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы дзяржаўных органаў і навуковых устаноў. У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел 147 навукоўцаў, педагогаў ды іншых зацікаўленых спецыялістаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама замежныя госці. Былі прадстаўлены практычна ўсе асноўныя галіны навукі, дзе цяпер адбываецца інтэнсіўны працэс тэрмінаўпарадкавання і тэрмінатворчасці. Матэрыялы канферэнцыі чытайце ў бліжэйшым нумары.

* * *

*Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае шчырую ўдзячнасць Арганізацыйнаму камітэту, які наладзіў Першую нацыянальную канферэнцыю «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» (Менск, 4—5 траўня 1994 г.). Асобна варта адзначыць заслугу старшыні Тэрміналагічнай камісіі ТБМ сп. Язэпа **СТАПАНОВІЧА** і сакратаркі гэтай камісіі сп-ні Святланы **БЕЛЬСКАЙ**, якія асабліва спрычыніліся да паспяховай працы канферэнцыі.*

# ЖЫВЁМ У ПЕРАЛОМНЫ ЧАС

*(з XI з'езда пісьменнікаў Беларусі)*

***Саюз пісьменнікаў (СП) Беларусі — адна са старэйшых творчых арганізацый рэспублікі, якая сёлета неўзабаве адзначыць сваё шасцідзесяцігоддзе. Зараз СП аб'ядноўвае 454 чалавекі. Гэта празаікі і паэты, драматургі і крытыкі, перакладчыкі і літаратуразнаўцы. 27—28 красавіка ў сталічным Доме літаратара адбыўся XI з'езд пісьменнікаў Беларусі. Былі заслуханы даклады старшыні СП Васіля Зуёнка і яго намеснікаў, справаздачы праўлення Белліфонду і старшынь рэвізійных камісій. У абмеркаванні дакладу і спрэчках выступіла 27 чалавек. Прапануем у скарочаным пераказе змест дакладаў і некаторых выступленняў.***

***З'езд прыняў «Зварот да беларускага народа» (друкуецца цалкам), выбраў кіруючыя органы Саюза пісьменнікаў.***

АДКРЫВАЮЧЫ пасяджэнне, народны паэт рэспублікі Максім Танк ва ўступным слове падкрэсліў, што гэты з'езд сапраўды заслугоўвае назвы гістарычнага, бо ўпершыню сабраўся ў свабоднай і суверэннай Беларусі, над якой горда рэе бел-чырвона-белы сцяг, пад якім мы ідзём па нялёгкай, але пачэснай дарозе да лепшай будучыні. На думку паэта, сучаснай беларускай літаратуры ўласціва багацце пошукаў новых тэм і новых выяўленчых сродкаў, новае гучанне адраджэнскіх матываў. Таму лепшыя творы беларускай нацыянальнай літаратуры па праву заслугоўваюць увагі не толькі нашых, а і замежных чытачоў. Спыніўся М. Танк і на стане беларускай мовы. Дзякаваць Богу,— адзначыў прамоўца,— зараз яна ўсталёўваецца як мова дзяржаўная і пачынае займаць сваё належнае месца ў штодзённым жыцці і быце, пераадольваючы незлічоныя перашкоды розных закаранелых асімілятараў. Паэт выказаў пажаданне, каб у імкненні зноў стаць еўрапейцамі мы не замуцілі чысты, празрысты паток роднай мовы рознымі «спікерамі», «мэрамі», «бізнесменамі», «кэмпінгамі», «спонсарамі», «брыфінгамі», «іміджамі». У якасці прыкладу беражлівага, дзяржаўнага стаўлення да нацыянальнай мовы народны паэт прывёў Францыю, дзе ў сакавіку г. г. урад прыняў пастанову, якая забараняе ўжыванне англійскіх слоў у тых выпадках, калі ёсць дакладныя французскія адпаведнікі. Прадугледжана, што парушальнікі пастановы (чыноўнікі, дыктары, рэдактары і інш.) будуць карацца значнымі штрафамі.

На заканчэнне прамоўца заўважыў: мы жывём у пераломны час, калі зрушыўся застой, калі палі бар'еры, калі набірае сілу разняволеная думка. Нашы пісьменнікі не толькі шанавалі, але, як святыню, бераглі матчына слова, абуджалі народ да годнага нацыянальнага самаўсведамлення.

У справаздачным дакладзе В. Зуёнка «Саюз пісьменнікаў Беларусі: пытанні жыцця і дзейнасці» сярод іншага падкрэслівалася, у прыватнасці, што ў самыя неспрыяльныя для развіцця нацыянальнай культуры жорсткія, застойныя часы ў гэтай зале пастаянна гучалі палкія словы ў абарону нашай гісторыі, культурнай спадчыны, матчынай мовы. Пісьменнікі,— працягваў аратар,— заўжды змагаліся за родную мову, за шырокае адраджэнне беларушчыны. Зараз гэтыя працэсы толькі-толькі распачаты. Таму існаванне адзінага Саюза пісьменнікаў сёння — аб'ектыўная неабходнасць. Старшыня СП звярнуў увагу залы і на тое, што цяпер неадкладна трэба ўзважна перагледзець само паняцце «нацыяналізм», якое ў нас па-ранейшаму ўспрымаецца ў адмоўным сэнсе, хоць ва ўсім свеце з'яўляецца сінонімам патрыятызму.

Прамоўца лічыць таксама: карані ўсіх нашых бедаў найперш у тым, што мы не маем канцэпцыі пабудовы нацыянальнай дзяржавы, не маем уласнай нацыянальнай палітыкі. А наша ўлада далёка не заўжды ідзе насустрач запатрабаванням нацыянальнага жыцця беларусаў. В. Зуёнак адзначыў, што ад дзейснага выканання прынятага Закона аб мовах залежыць шлях беларускай літаратуры да масавага чытача. Не выпадае спадзявацца на сапраўднае нацыянальнае адраджэнне, пакуль у краіне не будзе мэтанакіраванай і паслядоўнай дзяржаўнай моўнай палітыкі. У гэтай справе прыклад ёсць з каго браць. Так, у Нарвегіі кожная новая кніжка нарвежскага аўтара абавязкова павінна заказвацца кожнай кнігарняй і бібліятэкай. А Кангрэс ЗША яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя, калі ў краіну хлынула плынь нізкаякаснай еўрапейскай кніжнай прадукцыі, пастанавіў адлічваць пэўны працэнт ад яе рэалізацыі на развіццё айчыннай літаратуры. Завяршыўся даклад высновай: пакуль жыве беларускае слова — жыве Беларусь!

З кароткім паведамленнем выступіў міністр культуры і друку Беларусі, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, які зачытаў прывітанне ўдзельнікам з'езда ад Саўміна рэспублікі.

Падрабязны аналітычны даклад «Літаратура і час» прапанаваў аўдыторыі намеснік старшыні СП Уладзімір Паўлаў. Характарызуючы пераломны час, у які ўсе мы жывём, прамоўца падкрэсліў, што гэты перыяд вызначаецца не толькі развалам былой савецкай імперыі, а і тым, што сціхлі нават размовы пра сацыялізм з чалавечым аблíччам. За 200 гадоў татальнай і няспыннай русіфікацыі,— працягваў У. Паўлаў,— беларуская нацыя панесла незлічоныя страты. У гэтым сэнсе асабліва пастараліся бальшавікі. У 20-х—30-х гадах яны амаль абезгаловілі беларускі этнас, выбіўшы яго інтэлігенцыю, якая ў любым грамадстве лічыцца мазгамі нацыі. А так званая «новая историческая общность — советский народ» гвалтоўна і паслядоўна стваралася ў нас шляхам ліквідацыі нацыянальных каранёў беларусаў: паўсюдна зачыняліся беларускамоўныя школы, наш народ крок за крокам пазбаўлялі гістарычнай памяці, прымушаючы на чужой мове засвойваць чужую мінуўшчыну. Пры гэтым прамоўца акцэнтаваў увагу на тым, што мы зусім не выступаем супраць вялікай культуры вялікага суседняга рускага народа. Мы не можам не шанаваць дасягненняў лепшых, сусветна вядомых, прадстаўнікоў рускай культуры, навукі. Але найперш трэба ведаць пра тое, што было, што рабілася на сваёй роднай зямлі. Беларускім літаратарам,— лічыць У. Паўлаў,— зараз трэба пісаць так, каб не чырванець перад нашымі далёкімі пачынальнікамі, першапраходцамі нацыянальнага Адраджэння: Янкам Лучынам, В. Дуніным-Марцінкевічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Цёткай, іншымі выдатнымі змагарамі за святое права беларусаў мець сваю нацыянальную культуру і мову, «людзьмі звацца».

Далей былі грунтоўна прааналізаваны здабыткі апошніх гадоў у розных галінах і жанрах айчыннай літаратуры: прозе і паэзіі, драматургіі і крытыцы, перакладчыцкай справе і літаратуразнаўстве, дзіцячай літаратуры. Выказваліся таксама і значныя папрокі на адрас нашых пісьменнікаў, якія зараз яшчэ не заўжды працуюць так, як таго ад іх настойліва патрабуе час. Так, прамоўца слушна заўважыў, што паэтаў у нас многа, а дзяржаўнага Гімна дагэтуль няма. Пакуль што прыглушана завостранасць публіцыстычнага слова, хоць, вядома, набалелых праблем у нас маецца столькі, што іншы раз трэба проста крычма крычаць, але пісьменнікі — рэдкія госці на старонках папулярных газет, на радыё і тэлебачанні. Амаль знікла са старонак газет і часопісаў бягучае рэцэнзаванне навінак айчыннай літаратуры. Адзінае тут, бадай, выключэнне часопіс «Полымя», дзе на гэты жанр не забыліся. Зусім мала пішацца ў рэспубліцы для дзяцей і моладзі. Часта маладыя літаратары праяўляюць творчую актыўнасць толькі да таго, пакуль іх афіцыйна не прымуць у СП, пасля ж яны надоўга змаўкаюць.

У. Паўлаў далей адзначыў, што сучасны стан кнігавыдавецкай справы

*Працяг на с. 2.*

# ЖЫВЁМ У ПЕРАЛОМНЫ ЧАС

*(Працяг. Пачатак на с. 1.)*

ў рэспубліцы не спрыяе развіццю беларускай нацыянальнай культуры. Так, зараз у нас існуе звыш 700 розных арганізацый, якія маюць права выпускаць кнігі. Але згаданыя арганізацыі ў сваёй пераважнай большасці, скупліваючы паперу і паліграфічныя магутнасці, гоняць у асноўным бульваршчыну — кнігі пра секс, дэтэктыўшчыну, містыку. Усе недзяржаўныя выдавецтвы апошнім часам выпусцілі толькі тры (!) кнігі па-беларуску. На сённяшні дзень выдавецкія камерцыйныя структуры, паразітуючы на нашым бязладдзі, адна перад другой навыперадкі нахабна выкарыстоўваюць беларускую паліграфічную вытворчасць, якая павінна працаваць на нацыянальную культуру. У такіх умовах не дзіва што паліцы ў кнігарнях забіты «Тарзанамі», «Анжеликами», «Любовницами Сталина» і г. д.

Дакладчык спыніўся асобна на актуальных пытаннях роднай мовы. Ён адзначыў, што ворагаў беларускай мовы, на жаль, хапае і ў вышэйшым органе нашай дзяржаўнай улады — Вярхоўным Савеце, куды ў свой час трапілі пераважна тыя дэпутаты, якія былі выгадныя партнаменклатуры. Надзвычай марудна,— падкрэслена з трыбуны,— ідзе ажыццяўленне моўнага заканадаўства. І чакаць тут пазітыўных істотных зрухаў ад гэтага складу Вярхоўнага Савета і ўрада не выпадае, бо лагічным фіналам нашай хісцкай дзяржаўнасці стала ўваходжанне ў так званую рублёвую зону, якое, дарэчы, супярэчыць нядаўна прынятай Канстытуцыі.

Прамоўца закрануў таксама некаторыя ўнутраныя праблемы жыцця СП, назваў імёны пісьменнікаў, якія вызначыліся найбольш яркімі дасягненнямі на розных дзялянках сваёй літаратурнай дзейнасці.

Даклад намесніка старшыні СП Алеся Пісьмянкова «Пад знакам Адраджэння. Творчыя пытанні ў Доме літаратара» прысвячаўся аналізу дзейнасці гэтай установы за справаздачны перыяд. Было, у прыватнасці, падкрэслена, што за чатыры гады тут праведзена 250 тэматычных вечарын, некаторыя з якіх сталі сапраўднымі святамі нацыянальнай культуры. Шмат іх трансліравалася рэспубліканскім тэлебачаннем, з большасці рабіліся радыёрэпартажы. Такім чынам сталічны Дом літаратара працуе на аўтарытэт роднай культуры і мовы. Закраналіся і асобныя пралікі, недахопы, якія маюцца ў дзейнасці згаданай творчай установы.

Вылучым некаторыя выступленні, якія пасля справаздачных дакладаў прагучалі на пісьменніцкім з'ездзе.

Вядомы празаік Вячаслаў Адамчык падкрэсліў, што сучасная беларуская літаратура прыкметна вырасла тэматычна і пашырылася жанрава. Ён абурыўся беспадстаўнымі, грубымі нападкамі, з якімі ў «Народнай газеце» 27. красавіка г. г. супраць народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча выступілі дэпутаты Вярхоўнага Савета В. Сарокін і І. Някрасаў. Прамоўца коратка ахарактарызаваў палітычную сітуацыю на Беларусі, прапанаваў ад імя з'езда звярнуцца да ўрада Расіі з патрабаваннем неадкладнага вываду з нашай тэрыторыі чужой ядзернай зброі.

Падпалкоўнік В. Пулко (прадстаўнік Міністэрства абароны) адзначыў, што традыцыйна пісьменнікі і паэты — лепшая частка нацыянальнай інтэлігенцыі нашай сінявокай Беларусі, якія па-сапраўднаму самааддана служылі сваёй Бацькаўшчыне. Ён выказаў упэўненасць, што майстры мастацкага слова будуць у сваіх творах праўдзіва асвятляць і сённяшнія праблемы і пытанні нашай складанай гісторыі.

Пісьменнік Алесь Слесарэнка таксама абураўся згаданымі артыкуламі В. Сарокіна і І. Някрасава ў «Народнай газеце». Асноўную ж увагу ён адвёў неабходнасці адраджэння беларускага мастацкага чытання са сцэны, бо гэта не што іншае, як самая дзейсная, жывая прапаганда роднага слова. Шкада,— заўважыў ён,— што немалыя дасягненні і здабыткі ў гэтай галіне зараз забыты.

Паэт Павел Пруднікаў адзначыў, што апошнім часам пэўныя палітычныя сілы ў нашай краіне пайшлі ў рашучы наступ на роднае слова. Ворагаў беларушчыны напалохала, што дзяржаўная мова пашыраецца ў школе і, значыць, ёй будзе належаць будучыня. Прамоўцу ўсхвалявала і тое, што ў нашым парламенце дэпутаты цэлы тыдзень тапталіся вакол пытання дзяржаўнасці матчынай мовы. Але, зрэшты, нічога тут дзіўнага: 80 працэнтаў з іх — былыя наменклатуршчыкі.

Празаік Леанід Левановіч засяродзіў увагу прысутных на небяспецы, у якой зараз знаходзіцца беларуская нацыя. Хоць родная мова цяпер стала дзяржаўнай і добрую беларускую кнігу яшчэ купляюць, але вялікую шкоду нашай культуры наносіць, у прыватнасці, моўнае бескультур'е. Яно проста кідаецца ў вочы, хоць з боку прафесіянальных журналістаў, рэдактараў гэта з'ява недаравальная і недапушчальная. Аўтар прывёў неадзінкавыя прыклады грубага скажэння роднага слова вядучымі папулярнай перадачы «Радыёфакт», якую кожную раніцу слухаюць мільёны нашых грамадзян. На думку прамоўцы, на міжнародным узроўні звужваецца спектр уздзеяння беларускай літаратуры, бо творы нашых лепшых пісьменнікаў зараз у Маскве ў рускамоўных перакладах ужо не выдаюцца. Між тым, толькі дзякуючы такім перакладам некаторых твораў І. Мележа і В. Быкава з нашай літаратурай азнаёміўся ўвесь цывілізаваны свет.

Разважлівым, падкрэслена стрыманым аказалася выступленне празаіка Уладзіміра Дамашэвіча, які адзначыў, што родную мову ў нас адбіралі стагоддзямі. Прамоўца дадаў, што абараніць мы яе не маглі, бо рэальна дзейнічалі законы, пісаныя без нас. Але цяпер наша мова мае высокі статус дзяржаўнай. Прамоўца заклікаў усіх літаратараў з вялікай павагай і адказнасцю ставіцца да моўных здабыткаў нашага народа, якія ашчадна назапашваліся пакаленнямі продкаў.

Народны паэт Беларусі, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч падкрэсліў, што мы паспяшаліся парадавацца таму, як лёгка нам даўся дзяржаўны суверэнітэт. Ён ахарактарызаваў нядаўняе падпісанне пагаднення аб уваходжанні Беларусі ў «адзіную рублёвую зону» як растаптанне толькі што прынятай Канстытуцыі, што, несумненна, мае на мэце інкарпарацыю Беларусі ў склад Расіі. Гаворачы пра стан роднай мовы ў рэспубліцы, прамоўца паставіў у зале пытанне: ці чулі вы, каб дзе-небудзь у свеце прэзідэнт незалежнай дзяржавы не валодаў мовай гэтай сваёй дзяржавы — мовай народа, якому ён бацька і правадыр? Калі нам,— завяршыў выступленне Н. Гілевіч,— беларусам, не хапіла зведанай за стагоддзі ганьбы, то мы можам неўзабаве зведаць і гэтую.

Паэт і літаратуразнавец Алег Лойка выказаў думку, што сёння наша Бацькаўшчына — у небяспецы. Пад пагрозай яе незалежнасць і суверэнітэт. Справа зараз даходзіць да інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. І гэта палітыка з боку вышэйшых эшалонаў нашай улады знаходзіць, на жаль, поўную падтрымку. Ён заклікаў пісьменнікаў выступіць з пісьмовай заявай супраць магільшчыкаў нацыянальнай дзяржаўнасці.

Выступленне пісьменніка Серафіма Андраюка прысвячалася ў асноўным праблемам беларускага кнігавыдавецтва. На думку прамоўцы, нацыянальнае Адраджэнне ідзе ў першую чаргу праз кнігу на роднай мове. С. Андраюк выказаў шмат слушных прапаноў, рэалізацыя якіх дазволіць кожнай новай беларускай кніжцы не толькі ўбачыць свет, а і дайсці да вясковай школы і сельскай бібліятэкі, г. зн. у самую глыбінку.

Пісьменнік Алесь Кажадуб (жыве ў Маскве) заўважыў, што беларускія выдавецтвы, карыстаючыся пэўнай дзяржаўнай падтрымкай, пакуль знаходзяцца ў больш спрыяльных умовах за выдавецтвы расійскія, бо апошнія «адпушчаны... на волю», што на практыцы азначае поўную адсутнасць дзяржаўных датацый.

...Пасля спынення спрэчак адбыліся выбары кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў. Тайным галасаваннем у склад рады абрана 78 чалавек, старшынёй СП зноў стаў Васіль Зуёнак.

**Наш карэспандэнт.**

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Сёння, у вырашальны для лёсу нашай дзяржавы час, мы, дэлегаты XI з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, выказваем глыбокую занепакоенасць намерам пэўных палітычных сіл уключыць Рэспубліку Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Першы крок да гэтага — падпісанне ў Маскве Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Адначасна рыхтуецца ўнясенне кан'юнктурных паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якая стала непарушным законам для ўсіх.**

**Мы глыбока перакананы, што гэтыя супрацьзаконныя акты вядуць нашу рэспубліку да страты суверэнітэту, незалежнасці і ператварэння яе ў каланіяльны прыдатак Расійскай Федэрацыі, для размяшчэння на тэрыторыі беларускай зямлі стратэгічнай зброі, якая нясе пагрозу ядзернага знішчэння беларускага народа, які ўжо зведаў жахі дзвюх войнаў за апошняе стагоддзе.**

**Мы ўпэўнены, што ў самым блізкім часе гэта прынясе ўсім пластам нашага грамадства незлічоныя сацыяльна-эканамічныя беды. Нашай гаспадаркай будзе кіраваць чужы капітал, у якога не будзе ніякай зацікаўленасці развіваць нацыянальную эканоміку, культуру, навуку, мову і літаратуру. Гэтак званая рублёвая зона нічога не дасць нашаму народу. Яна з'яўляецца нічым іншым, як палітычным манеўрам у выбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Падобныя ўчынкі ўладных структур прыніжаюць годнасць нашай краіны і яе народа, вядуць да здрады ідэям нацыянальнага адраджэння, адбіраюць будучыню ў нашых дзяцей і ўнукаў.**

**Які суверэнітэт і незалежнасць без свайго бюджэту, без сваёй фінансавай сістэмы, без уласнай валюты і нацыянальнага банка!!**

**Цяперашнія ўладныя структуры павінны адкрыта і сумленна сказаць беларускаму народу, што яны робяць усё, каб ліквідаваць дзяржаўнасць і незалежнасць нашай радзімы. Хопіць падманаў і хітрых выкрутаў! Народ і гісторыя не даруюць здрады. Свабода і самастойнасць, якіх беларускі народ чакаў і за якія змагаўся больш пяці стагоддзяў, не могуць быць задушаны і прададзены. Шчаслівы шанц адраджэння народнай гаспадаркі, гістарычнай памяці, нацыянальнай культуры, навукі, мовы і літаратуры не павінен быць упушчаны!**

**Выказваем спадзяванне, што грамадзяне Расіі, і ў першую чаргу расійская інтэлігенцыя, зразумеюць нашу занепакоенасць, наш клопат і падтрымаюць нас — і гэтым засведчаць сваю добрую волю, сваю шляхетнасць і сваю братнюю павагу да Беларусі.**

**Нaперадзе — выбары прэзідэнта. Не абманіцеся і тут, шаноўныя грамадзяне! На сваім вопыце вы ведаеце, як часта словы сённяшніх кіраўнікоў не супадаюць са справамі. Дык не верце неабгрунтаваным абяцанням! Не можа быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і той, хто не ведае нават мовы свайго народа!**

**Мы асуджаем здраду будаўніцтву суверэннай Рэспублікі Беларусь!**

**Мы асуджаем здраду ідэалам Беларускага Адраджэння!**

**Мы рашуча супраць уключэння ў склад Расійскай Федэрацыі нашай Бацькаўшчыны, нашай Дзяржавы, нашай роднай Беларусі.**

**XI З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

*27 красавіка 1994 года*

# У ПАЛОНЕ БЯДЫ

*«Бреду оттуда.*
*— Что там, как?*
*— Да так, хороший край.*
*В лесу, в снегу стоит барак.*
*Ложись и помирай»*
**А. ТВАРДОЎСКІ.**

### ПАВАЖАНЫ ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР!

***Гэты ўспамін Л. Армоніка варты апублікавання: вось так — праз ліквідацыю носьбітаў мовы — знішчалася мова і дайшло да яе сённяшняга стану. Тых, хто яе ведаў, карыстаўся і даражыў ёю, — знішчалі, хоць і не як «нацыяналістаў», а як «кулакоў». Гэта быў сапраўдны генацыд у дачыненні да беларускага народа — і пра яго трэба ведаць. І помніць.***

***Ніл ГІЛЕВІЧ.***

У 1930 г., як заўсёды, у вёсцы Макараўшчына святкавалі сяляне Каляды. А моладзь, як заўсёды, жаніла Цярэшку. І ўжо на другі дзень усе ў вёсцы ведалі, хто з кім «жаніўся» і хто пасля гэтага праводзіў сваіх «нявестаў» дадому. Гэта хвалюючае і жаданае свята для моладзі заставалася ў памяці кожнага на ўсё жыццё. (Гэты звычай у іншых мясцовасцях Беларусі я нідзе не сустракаў.)

Пасля святкавання Каляд набліжалася і другое свята — Вадохрышча. Святар Макараўскай царквы Фелагрый Костка павёў мужыкоў на лёд Макараўскага возера паказаць, дзе і як высякаць у лёдзе крыж. Пры гэтым перасцярог, каб сачылі: не дай Бог ды ў гэты крыж яшчэ ўваліцца хто з дзяцей. Трэба крыж закрыць дошкамі. На другі дзень, толькі сабраліся мужыкі рушыць на возера, як пачулі: нейкі начальнік, прыехаўшы з Лепеля, усіх заклікае на дужа важны сход. Пасыльныя абыходзілі хаты ў вёсцы і хутары, папярэджвалі, каб абавязкова з кожнай сям'і хто-небудзь быў на сходзе. Адчуваючы нешта нядобрае, вусцішна-ніякавата мужыкі заходзілі ў школу, панурыўшы галовы сядалі на лаўкі. Услед заходзілі і бабы.

Калі ўсе сабраліся, начальнік-упаўнаважаны, пільна і па-гаспадарску агледзеўшы прысутных, пачаў прамову аб тым, што настаў час стварыць на сяле лепшае і больш заможнае жыццё. Наш вялікі правадыр, казаў ён, таварыш Сталін, выконваючы запаветы Леніна, дужа клапоціцца,каб селяніну стала лягчэй і весялей жыць і працаваць. Згадаў і пра тое, што на трынаццатым з'ездзе партыі таварыш Міхаіл Іванавіч Калінін гаварыў пра варожую сутнасць кулака. Кулакі надта завышалі цэна на хлебанарыхтоўчыя прадукты. Расказаў, што ўжо на Беларусі ствараюцца калгасы і нельга адставаць ад жыцця.

Падрабязна расказаўшы аб усім, упаўнаважаны перайшоў да другога пытання парадку дня. Трэба на гэтым агульным сходзе, сказаў ён, абраць актыў вёскі — камітэт сялянскай беднаты. Параіў, каб абралі самых бедных сялян. Такім чынам у гэты камітэт прапанавалі сялян: Варошку Анісю, Варошку Аляксандра, Варошку Міхаіла (па мянушцы — «Шыкер»), Варошку Васіля, Варошку Івана — усіх, каго ў вёсцы называлі абібокамі і галадранцамі. Прапанавалі і п'яніцу Аляксея (такі быў адзін у сяле), дык той сказаў: гэта праўда, ён любіць гарэлку, але з такім хаўрусам, які абралі ў камітэт беднаты, ён не толькі не стане выпіваць, а нават не сядзе на адным полі... Па прапанове ўпаўнаважанага кіраўніком камітэта абралі настаўніка школы Папко Іосіфа Васільевіча. Пасля выбараў камітэта ўпаўнаважанаму пасыпаліся пытанні: як будзе ствараца калгас, дабравольна ці не? І як гэта будзе агульная зямля: калі хто ўжо многа гною ўлажыў у яе і апрацаваў, а хто за ёй не глядзеў, а атрымліваць будуць усе пароўну? А як абагуліць жывёлу? У кожнага ж яна мае сваю цану. Не, на гэта ніхто ў сваім розуме не згодзіцца. Упаўнаважаны на ўсе пытанні адказваў, што ўсё будзе праводзіцца добраахвотна, ніякага прымусу не будзе і што не трэба хвалявацца. Пасля сходу сяляне разыходзіцца не спяшаліся, размовы працягваліся. Урэшце амаль усе сышліся на думцы: у калгас уступаць не будуць.

Праз нейкі тыдзень-два настаўніка Папко выклікалі ў сельскі Савет і далі загад, каб на пасяджэнні камітэта сялянскай беднаты саставілі спіс дзесяці самых заможных гаспадарак для раскулачвання. Камбед з задавальненнем успрыняў гэтую навіну, і спіс хутка і аднагалосна саставілі. Туды ўвайшлі Казлоў Дзям'ян, Казлоў Пётра Дзям'янавіч, Казлоў Андрэй Дзям'янавіч, Ялуга Пётра, Костка Фелагрый Сцяпанавіч — святар Макараўскай царквы, Таран Емяльян, Армонік Ціхан Вісарыёнавіч, Армонік Георгій Вісарыёнавіч, Ханяк Аляксей Канстанцінавіч, Казлоў Хвёдар.

Як толькі гэты спіс быў дастаўлены ў сельсавет, зноў з Лепеля прыехаў упаўнаважаны. На гэты раз з міліцыянерамі. Сталі перапісваць маёмасць кулацкіх гаспадарак у прысутнасці актывістаў. Спачатку запісвалі прозвішча, імя і імя па бацьку кожнага члена сям'і. Потым перапісвалі маёмасць. Па якому метаду лічылі маёмасць, пакажу на прыкладзе нашай гаспадаркі. Упаўнаважаны звяртаўся да бацькі:

— Колькі зямлі?

— Дзевяць дзесяцін.

Запісвалі — 33 дзесяціны.

— Якую маеш малацілку?

— Малацілка ручная.

Запісвалі — конная малацілка.

— Колькі коней?

— Адзін конь.

Запісвалі — 3 кані.

— Колькі кароў?

— Адна.

Пісалі — 3 каровы.

Бацька не вытрымаў і стаў пярэчыць:

— Навошта ж пісаць такую хлусню, можна схадзіць у хлеў і ўбачыць колькасць жывёлы!

На што ўпаўнаважаны адказаў:

— Я не маю намер хадзіць па хлявах і нюхаць навоз. Мне няма часу, а па-другое, не твая справа, што і як я пішу.

Пасля таго як была скончана справа з інвентарызацыяй маёмасці гэтых гаспадарак, праз тры дні ў вёску заявіліся два энкавэдзісты, арыштавалі Армоніка Георгія, брата бацькі, і святара царквы Фелагрыя Костку і павезлі ў Лепель.

Вестку, што іх забілі як злосных ворагаў народа, прывёз той самы ўпаўнаважаны, які перапісваў маёмасць. Ён жа, праз камбед, даў загад, каб праз двое сутак усе, у каго апісана маёмасць, былі гатовы да высялення. З сабой дазвалялася ўзяць цёплыя рэчы і прадукты харчавання.

Ці можна ўсё расказаць ці апісаць тое, што рабілася ў гэтых сем'ях!

— Авохці мне, а Божачкі, а дзе ж ты ёсць, а што ж гэта робіцца, а ў мяне ж маленькая Людачка на руках, а куды ж нас вышлюць? — прычытала маці.

Упершыню маці ўпікнула бацьку за тое, што ён няверуючы, што ўсе бачылі, як ён з папом Косткам на Вялікдзень дровы рэзаў. А сам поп у нядзелю, як людзі збіраліся ў царкву, раніцай сена касіў. З царкоўнай горкі ўсё відаць. Вось і пакараў Бог.

Але Бог пакараў не толькі няверуючых. Бо астатнія былі веруючыя. У некаторых ікон было ад кута да парога. Тут маці ўспомніла, з якімі цяжкасцямі здабывалі гэты хутар. Бацька ездзіў у Пецярбург зарабляць грошы, каб купіць у пана Сялявы гэтыя лядзы. У той час на гэтых пустках былі толькі хмызнякі. Выкарчоўвалі, пасадзілі 350 дрэў яблыневага саду. А колькі разоў збіралі талаку, каб зрабіць дом, хлеў, пуню, ток, баню! Купілі каросліваго коніка. Колькі яго лячылі, пакуль выхадзілі нарэшце! Набылі мэблю, машынку швейную нажную «Зінгер», ручную веялку (арфу), ручную малатарню, бібліятэку каля 100 тамоў, скрыпку, гармонік, посуд, адзежу... І ўсё гэта застанецца тым гультаям — камбедаўцам? У роспачы, збіраючы рэчы для сябе і для дзяцей, пачула ўжо позна вечарам: крычыць дзяўчынка, галодная. Апошняя дзяўчынка, такая доўгачаканая, бо першыя адзін за адным нарадзіліся чатыры сыны. Адшпіліла кофтачку, узяла на рукі Люду і дала грудзі. Але дзяўчынка зноў стала крычаць. Аказалася — у грудзях ад хвалявання прапала малако. Ірады! — крычала і плакала маці, збіраючы, чым пакарміць Люду ды і астатніх. У гэту ноч на хутары ніхто не спаў, акрамя 2 малых дзяцей: Льва, якому было 3 гады, і неўмаляткі Люды.

Праз два дні заявіўся на хутар камбедавец Мішка Шыкер. Без прывітання і без дазволу бацькі вывеў з хлява каня і стаў запрагаць у сані, а нам даў загад выносіць клункі і садзіцца. Папярэдзіў, што ўжо ў вёсцы чакаюць тыя самыя энкавэдзісты, якія забілі Юрку і Фелагрыя. Хату замкнулі, а ключ Мішка схаваў сабе ў кішэню.

Энкавэдзісты далі загад на высылку пяці сем'яў: Армоніка Ціхана, Юркавай, Ялугі Пётра, Казлова Дзям'яна і Тарана Емяльяна. Астатніх выслалі пасля.

Студзеньскім марозным днём на адзінаццаці вазах (пяць сялянскіх сем'яў і два энкавэдзісты) абоз рушыў у г. Лепель.

У Лепель прыехалі ўжо позна вечарам. Кругом цемра, толькі дзенідзе на чыгуначнай станцыі свяціліся агні. Усіх «ворагаў народа» загналі ў дэпо. Там знаходзілася некалькі дзесяткаў сем'яў і стаяла ахова. Амаль да самай раніцы «кулакоў» падвозілі і падвозілі з усіх мясцін Лепельскага і Бягомльскага раёнаў.

На другі дзень пачалася пагрузка ў таварныя вагоны. Многія мужыкі і бабы ў лапцях і палатаных кажушках. Нарэшце падчапілі паравоз, і цягнік рушыў на Воршу, на Маскву, на Волагду і далей і далей на поўнач ад сваёй вёскі, ад радзімы. Доўга стаялі на прыпынках. Здавалася, што не будзе канца і края гэтай лютай дарозе.

Толькі праз 18 сутак цягнік нарэшце спыніўся ў лесе, недалёка ад г. Котласа Архангельскай вобласці. Усіх выгрузілі на снег і мароз. Праз суткі перагналі ў баракі халоднага тыпу. Наш барак без столі і падлогі з маленькімі акенцамі быў № 80. Уздоўж барака паабапал стаялі двухпавярховыя нары. Усе сем'і з вёскі Макараўшчына размясціліся на верхніх нарах з левага боку, пры ўваходзе ў барак. З верху барака, на дах, была насыпана зямля. Ад паўночных вятроў барак хістаўся, і зямля сыпалася на галовы.

Хутка паявіліся вошы, а затым і хваробы. Спачатку паміралі немаўляткі. Многія дзеці перад тым як памерці надта крычалі. Мусіць, ім нешта вельмі балела. Бацькі хворых дзяцей звярталіся да ахоўнікаў, каб паззвалі доктара. Ахоўнікі адказвалі, што для дзяцей ворагаў народа дактароў няма. Днём і ноччу скрозь стаяў гул кашлю прастуджаных дарослых людзей, плач і крык дзяцей. У гэтым жудасным пекле ад холаду і голаду паміралі і дарослыя.

Для пахавання памерлых побач з лагерам была выкапана яма. Трупы клалі штабелямі адзін да аднаго. Часам прывозілі акрываўленых нябожчыкаў і з г. Котласа. Амаль голых ахоўнікі скідвалі іх, як дровы.

Побач з нашым баракам быў барак № 79. Туды прывезлі сялян з Украіны, з тых мясцін, як высветлілася, дзе панаваў голад. Там сяляне варылі і елі чалавечае мяса, нават сваіх родзічаў. Гэтыя сяляне хутка сталі ўсе паміраць. Ахоўнікі штодня вывозілі іх да ямы падводамі. Калі адзенне ці абутак былі не зусім паношаныя, ахоўнікі здымалі і забіралі іх сабе, а нябожчыкаў скідвалі голых.

Наш бацька пісаў скаргі ў нейкія інстанцыі аб тым, што па маёмаснаму становішчу ён не ўваходзіць у клас кулакоў, што ўпаўнаважаны недакладна запісаў і ўсё завысіў у некалькі разоў. Пісаў і ў сваю вёску брату Апанасу. Той паведаміў, што праз тыдзень, як вывезлі нас, вывезлі і астатнія чатыры сялянскія сям'і і сям'ю святара Макараўскай царквы Косткі Ф. Пасля ўсе сяляне добраахвотна ўступілі ў калгас, які назвалі імем Молатава.

Чатыры гады ніякага адказу не было на бацькавы скаргі. Толькі ў канцы 1933 г. у лагеры раптам нечакана з'явіўся брат маці Знарко Мікола, які прывёз паперу ў адказ на бацькаву скаргу аб вызваленні нас з гэтага «спецпасялення». Але ўлады нашага лагера бацьку не адпусцілі. Толькі дазволілі яму нас праводзіць да чыгуначнай станцыі г. Котласа. Сумесна з намі адпусцілі і яшчэ некалькі сем'яў. К гэтаму часу наша сястрычка ўжо амаль памірала ў маці на руках. Ахоўнікі былі здзіўлены, што мы вытрымалі гэта пекла і ўсе яшчэ не памерлі.

Да Масквы ехалі ў таварным цягніку. У Маскве зайшлі ў вакзал з клункамі, брудныя і абарваныя, вошы поўзалі па верху вопраткі. Селі на падлозе на сваіх клунках. Нейкі інтэлігентны мужчына падышоў да нас і распытаў, хто мы, куды і адкуль едзем. Мы сказалі, што мы раскулачаныя, але нас вызвалілі і зараз мы вяртаемся з лагера дадому ў Беларусь. Тады ён паклаў нам грошы і звярнуўся да пасажыраў, каб аказалі міласэрнасць і чым маглі нам дапамаглі. Пасажыры сталі нам падносіць і даваць піражкі, булачкі, абаранкі, грошы, хто што. Маці дзякавала ўсім і плакала. Мы з прагнасцю накінуліся на гэту яду, бо такой ніколі не елі.

Сястрычку нашу прывезлі дадому ўжо мёртвую. Пахавалі на каменскім магільніку.

Праз некаторы час «гаспадар» нашай хаты некуды з'ехаў. Але што ён там нарабіў! Амаль усюды пазрываў столь і падлогу, запаскудзіў сцены, паламаў мэблю, разбіў посуд, знішчыў амаль усё. Але ж мы апынуліся ў сваёй хаце і пачалі наладжваць жыццё нанава. Неўзабаве атрымалі паведамленне з лагера — бацька памёр.

А ў 1936 годзе ноччу маці зноў арыштавалі. Да цяперашняга часу невядома за што. Невядома, дзе яна пахавана. Ці ў Курапатах, а ці зноў на поўначы? Мы, чатыры браты, засталіся адны. Як ворагаў народа нас не прымалі ў камсамол, у Армію не прызывалі. Былі пастаяннымі кандыдатамі зноў для адпраўкі ў Гулаг. У 1941 годзе, у самым пачатку вайны мы ўсе тым не менш уключыліся ў партызанскі рух на Беларусі і змагаліся з фашысцкімі захопнікамі на баку Расійскай камуністычнай імперыі. Спадзяваліся, пасля перамогі над Гітлерам жыццё пераменіцца і ў нас.

**Леў АРМОНІК.**

г. Маладзечна.

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*М. В. БІЧ.*

# Беларусы: вызваленчы рух, першая рэвалюцыя (1863—1907 гг.)

**(Працяг. Пачатак у № 19.)**

У такіх умовах К. Каліноўскі ў пачатку чэрвеня 1863 г. зноў быў запрошаны ў Вільню. 31 ліпеня ён узначаліў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, а 22 жніўня яму передалі і паўнамоцтвы камісара Варшаўскага ўрада ў Вільні. Такім чынам, к канцу лета 1863 г. у руках Каліноўскага сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Ён прымаў рашучыя захады па мабілізацыі сіл на адпор ворагу, аднак дабіцца пералому ў ходзе барацьбы не змог. Да пачатку верасня 1863 г. у беларуска-літоўскім краі паўстанне было практычна падаўлена. К. Каліноўскі пратрымаўся на волі да канца студзеня 1864 г., імкнучыся захаваць падпольную арганізацыю на Беларусі і ў Літве і рэшткі ўзброеных сіл з мэтай падрыхтаваць да вясны 1864 г. новае паўстанне. Ваенна-палявы суд прыгаварыў яго да расстрэлу. Але Мураўёў замяніў расстрэл публічным павешаннем, якое адбылося ў Вільні 10(22) сакавіка 1864 г. у Вільні.

Царызм рукамі Мураўёва-вешальніка жорстка расправіўся з удзельнікамі паўстання. Паводле афіцыйных дадзеных на Беларусі і ў Літве 128 чалавек былі пакараны смерцю, 12483 асобы высланы на катаргу і пасяленне ў Сібір, у арыштанцкія роты і г. д. Маёнткі памешчыкаў, якія мелі дачыненне да паўстання, канфіскоўваліся ў казну. На вельмі льготных умовах яны прадаваліся царскім генералам і чыноўнікам, выхадцам з цэнтральных губерняў. Усе астатнія мясцовыя памешчыкі (на першым часе нават рускія) былі абкладзены кантрыбуцыяй. Закрываліся або ператвараліся ў праваслаўныя цэрквы многія касцёлы. За ўдзел студэнтаў у паўстанні ўлады закрылі адзіную на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову — Горы-Горацкі земляробчы інстытут, скарацілі колькасць сярэдніх навучальных устаноў. Кадры мясцовых настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, землямераў і інш. былі пераведзены на службу ў цэнтральныя губерні. На іх месца прыслалі новых, якім царызм давяраў рэалізацыю сваёй палітыкі ў краі. На Беларусі і ў Літве быў устаноўлены рэжым выключных законаў.

Сацыяльна-эканамічнае становішча асноўнай масы сялянства пасля рэформы 1861 г. вызначалася малазямеллем і звязанай з ім кабальнай сістэмай эксплуатацыі. Сяляне заставаліся непаўнапраўным падатным саслоўем, прывязаным да надзелаў. Велізарныя выкупныя плацяжы, дзяржаўныя і мірскія падаткі і зборы, розныя натуральныя павіннасці нярэдка перавышалі даход з сялянскай гаспадаркі. Селянін не меў законнай абароны ад свавольства чыноўнікаў і паліцыі. Толькі ў адносінах да сялян аж да пачатку XX ст. ужывалася ганебная форма пакарання часоў рабаўладання — публічнае лупцаванне прутамі.

Уздым сялянскага руху ў канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў не перарос у сялянскую рэвалюцыю. Рэвалюцыйным дэмакратам на Беларусі не ўдалося зліць яго і з паўстаннем 1863 г. Падаўленне паўстання, устанаўленне ў краі рэжыму выключных законаў, а таксама ўступкі царызму ў працэсе рэалізацыі рэформы 1861 г. абумовілі аслабленне сялянскага руху. Колькасць выступленняў рэзка тут зменшылася. У 1864—1880 гг. на Беларусі штогод у сярэднім адбывалася 8—10 выступленняў сялян. Адносны ўздым у сялянскім руху тут назіраўся ў 80-я гады, калі гэты паказчык амаль падвоіўся. У 90-я гады наступіў чарговы спад.

Найбольш распаўсюджанымі ў беларускай вёсцы былі выступленні, звязаныя з пазямельнымі адносінамі сялян і памешчыкаў (захопы ворнай зямлі, лугоў і пашаў, барацьба за сервітуты, супраціўленне пры размежаванні зямель, патравы, парубкі лесу і г. д.). У 80—90-я гады яны складалі амаль 2/3 усіх выступленняў. Сяляне аказвалі супраціўленне органам улады пры выкананні судовых рашэнняў, пастаноў і распараджэнняў розных адміністрацыйных устаноў.

Царскія ўлады ахоўвалі інтарэсы памешчыкаў і казны, жорстка падаўлялі ўсе спробы захопаў зямлі і парушэння правоў землеўласнікаў, сілаю спаганялі запазычанасць па падатках, нярэдка забіралі пры гэтым апошнюю сялянскую маёмасць. У месцы, ахопленыя сялянскім рухам, у неабходных выпадках пасылаліся карныя атрады паліцыі і войска. Вайсковыя падраздзяленні тады накіроўваліся на «пастой» — г. зн. на ўтрыманне вёскі.

Але сяляне працягвалі верыць у «добрага цара». Царысцкія ілюзіі беларускага сялянства пасля 1863 г. нават узмацніліся. Уплыў рэвалюцыйных дэмакратаў з-за слабасці і выпадковасці іх сувязей з вёскаю ў сялянскім руху практычна не адчуваўся. Сялянская барацьба за зямлю і волю ў парэформенным дзесяцігоддзі заставалася стыхійнай, лакальнай, неарганізаванай.

У фабрычна-заводскай і мануфактурнай прамысловасці ў 60—70-я гады нормы і формы эксплуатацыі рабочых нічым не рэгуляваліся. Толькі ў 1882 г. быў выдадзены закон аб забароне працы дзяцей да 12 гадоў, абмежаванні працоўнага дня для падлеткаў (12—15 гадоў) і вызваленні іх ад работы ў начны час і ў святочныя дні. У шкодных для здароўя вытворчасцях праца дзяцей і падлеткаў забаранялася. Для кантролю за выкананнем закона ўводзілася фабрычная інспекцыя. На практыцы згаданыя законы часта ігнараваліся.

Пратэст рабочых супраць неабмежаванай эксплуатацыі ў 60—70-я гады праяўляўся пераважна ў стыхійных хваляваннях — групавых уцёках з месцаў работы, калектыўных скаргах. Такія хваляванні адбываліся летам 1864 г. на будаўніцтве Дзвінска-Віцебскай чыгункі, у пачатку 70-х гадоў — на будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі ў Менскім павеце, на цагельным заводзе ў Брэст-Літоўскай крэпасці. У 5-і чыгуначных майстэрнях Беларусі ў другой палове 70-х — пачатку 80-х гадоў былі арганізаваны першыя стачкі рабочых з патрабаваннямі рэгулярнай выдачы заработнай платы і скарачэння рабочага дня. Амаль усе выступленні мелі абарончы характар. Галоўнай формай рабочага руху на Беларусі стачкі сталі ў 1885—1894 гг. Колькасць іх у гэты час вырасла да 22. Яны адбыліся ў Менску, Гомелі і Пінску. Абсалютную большасць стачачнікаў складалі рабочыя чыгуначных майстэрняў. Актывізаваўся і палітычны антыцарысцкі рух, які набыў форму народніцтва.

У канцы 70-х — першай палове 80-х гадоў народніцкія гурткі дзейнічалі ў Менску, Магілёве, Гродне, Пінску, Віцебску, Оршы, Слуцку. Яны мелі сувязі з усерасійскай арганізацыяй «Зямля і Воля», створанай у 1876 г. Адсутнасць апоры ў масах, з аднаго боку, і рэпрэсіі царызму, з другога, прымусілі частку землявольцаў прызнаць неабходнасць барацьбы за буржуазна-дэмакратычныя свабоды і перайсці да індывідуальнага палітычнага тэрору. У сувязі з гэтым летам 1879 г. адбыўся раскол «Зямлі і Волі». Прыхільнікі новай тактыкі стварылі арганізацыю «Народная воля», а старой, прапагандысцкай — «Чорны перадзел».

**(Працяг будзе)**

*Беларускае замежжа*

# З сардэчным болем за Бацькаўшчыну

Нядаўна пасля даволі доўгага перапынку падпісчыкі ў розных краінах свету атрымалі чарговы, трыццаць восьмы нумар часопіса «Беларуская думка» — аднаго са старэйшых перыядычных выданняў беларускай эміграцыі, якое выходзіць у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША).

Адразу адзначым, што дасканалай паліграфіяй нумар істотна адрозніваецца ад папярэдніх: часопіс адмыслова выглядае, яго прыемна трымаць у руках. У рэдакцыйным паведамленні гаворыцца: «Гэты нумар «Беларускай думкі» павінен быў паявіцца на свет у пачатку 1993 г. Не паявіўся, бо выйшлі... (са строю) старыя друкарскія машыны. Друкаваць жа ў чужых друкарнях не маглі, бо не маем грошай. Наш паважаны друкар Жорж Наумчык ахвяраваўся і набыў камп'ютар».

Часопіс адкрываецца рэзалюцыяй 10-га з'езда Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі, які адбыўся ў студзені мінулага года ў Мельбурне. Змест гэтага дакумента, складзенага ў форме звароту да ўрада Рэспублікі Беларусь, мае шмат надзвычай важных, грунтоўных прапаноў, якія яшчэ раз пераконваюць, што ў нашых замежных суайчыннікаў сэрца па-ранейшаму «аб радзімай старонцы баліць». Забягаючы крыху наперад, заўважым, што паслядоўная рэалізацыя нават пэўнай іх часткі забяспечыла б, несумненна, будаўніцтва паўнакроўнай, суверэннай і самастойнай, незалежнай Беларускай дзяржавы. На жаль, наш урад застаецца глухім да падобных разумных думак, якія і сёння яшчэ не страцілі сваёй актуальнасці. Мяркуйце самі.

У згаданай рэзалюцыі аўстралійскія землякі заклікаюць наш урад: неадкладна ўвесці беларускамоўнае выкладанне ва ўсіх навучальных установах рэспублікі, а беларускую мову ў якасці адзінай дзяржаўнай — у дзяржустановах, войску і храмах усіх рэлігійных канфесій; паскорыць арганізацыю «беларускага войска», якое ахоўвала б і абараняла тэрыторыю Беларускай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах; замяніць былую савецкую міліцыю беларускай дзяржаўнай паліцыяй; замяніць усе савецкія назвы вуліц беларускімі этнічнымі назвамі; замяніць тэрмін «Саветы» на ўсіх узроўнях улады на слова «рада»; увесці сваю валюту і банкаўскую сістэму; ураду прыняць дэкларацыю аб неабходнасці вяртання «беларускіх этнічных земляў у састаў Беларускай дзяржавы»; увесці прыватную ўласнасць, сялян зрабіць уласнікамі земляў, на якіх яны працуюць; усебакова падтрымліваць дзейнасць БНФ «Адраджэньне»; адраджаць беларускую нацыянальную культурную спадчыну, абараняць агульначалавечыя правы, свабоды і «асабістыя вольнасці». Як бачым, перад намі — узважаная праграма першачарговых мерапрыемстваў, няўхільнае ажыццяўленне якіх дазволіць, нарэшце, беларусам заняць «пачэсны пасад між народамі». Ігнараваць гэтыя прапановы, якія, дарэчы, маюць шмат агульнага з пазіцыяй БНФ, іншых патрыятычных арганізацый Беларусі, могуць толькі недальнабачныя людзі ці ворагі беларушчыны.

Прыцягне ўвагу чытачоў «Беларускай думкі» і артыкул «Размовы з Экзархам Філарэтам». Ён уяўляе сабой пераказ гутаркі карэспандэнта польскага часопіса «Культура» А. Куліка з Экзархам, змешчанай у 551-м і 552-м нумарах часопіса за мінулы год. Гэты матэрыял добра адлюстроўвае пазіцыю Філарэта па пытаннях нацыянальнага адраджэння Беларусі. Так, напрыклад, Экзарх лічыць, што «было б справядліва, калі б абедзве мовы (руская і беларуская — М. В.) былі прызнаны дзяржаўнымі». Разам з тым ён падкрэсліў: звужэнне сферы ўжытку рускай мовы «я разумею як штосьці ў выглядзе адсутнасці пашаны да тутэйшых рускіх». Гаворачы аб сучаснай ролі каталіцкага касцёла на Беларусі, Філарэт заўважыў, што ў абсалютнай большасці выпадкаў нашы ксяндзы — этнічныя палякі: са 150 ксяндзоў толькі 26 з'яўляюцца беларусамі. Такім чынам, цяпер на Беларусі назіраецца польска-каталіцкая экспансія, з чым, дарэчы, пагадзіўся і карэспандэнт «Культуры».

Вострай публіцыстычнасцю вылучаецца вялікі артыкул К. Мерляка «Хто каго мае судзіць?». Гэта — урывак з кнігі «Праца Канстанціна Мерляка на эміграцыі». Сярод астатняга аўтар абвінавачвае значную частку творчай інтэлігенцыі Беларусі ў шматгадовым супрацоўніцтве з камуністычнымі ўладамі, што аказала самы негатыўны ўплыў на агульны стан беларускай нацыянальнай культуры, садзейнічала палітыцы татальнай русіфікацыі Бацькаўшчыны, якую дзесяцігоддзямі ажыццяўлялі крамлёўскія кіраўнікі.

Са сваімі вершамі ў чарговым нумары «Беларускай думкі» выступаюць Леанід Пранчак, Міхась Кавыль, Пятро Звонны, Анатоль Брусевіч, Людміла Алданава. А ў канцы часопіса друкуюцца ноты і тэкст песні «Беларускія дзяўчаты» (словы М. Кавыля, музыка З. Яўтуховіча), якая зараз карыстаецца вялікай папулярнасцю на Бацькаўшчыне і сярод нашых замежных суайчыннікаў.

Не застануцца без увагі чытачоў і «Мае ўспаміны» Анэлі Катковіч, дзе аўтар цікава і займальна расказвае аб сваім дзяцінстве ў мястэчку Будзелаве, аб вучобе ў Віленскай беларускай гімназіі і Віленскім універсітэце.

Часопіс змяшчае таксама разнастайную інфармацыю з грамадска-культурнага жыцця амерыканскіх беларусаў, друкуе лісты ў рэдакцыю П. Дуброўскага з Мельбурна і В. Булгакава (Менск), які выступае ад імя студэнцкай грамады Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У «Беларускай думцы» паведамляецца, што выданне выходзіць выключна на добраахвотныя ахвяраванні беларускіх эмігранцкіх арганізацый і прыватных асоб. Рэдакцыя выказвае падзяку ўсім, хто дапамог нарадзіцца згаданаму нумару часопіса, большасць матэрыялаў якога, падкрэслім, прасякнута сардэчным болем нашых замежных суайчыннікаў за Бацькаўшчыну.

**М. В.**

# Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАДСТРЭЛІЦЬ (параніць або забіць стрэлам) *Пані Мар'я чытае пра восень і дождж... Нехта падстрэліў недзе жорава, і, абяссілены, ён асядаў на лузе* (Брыль), ПАДБІЦЬ *Падбярэцкі падбіў лася раніцай пад вешкамі і ганяў, не баючыся, з сабакам цэлы дзень, не даючы рады* (Пташнікаў).— Незакончанае трыванне: **Падстрэ́льваць, падбіва́ць.**

ПАДСТРЭШАК (ніжні край страхі, які навісае над сцяною якога-н. будынка) *Касу мы ўзялі ў дзядзькавага напарніка, дасталі з падстрэшка дашчатай, нізенькай пунькі* (М. Стральцоў), ПАДСТРЭШША *Увечары мужчыны даставалі з падстрэшша косы* (Асіпенка).

1. ПАДСТУПАЦЬ (пра лес, горы, будынкі і пад.: размяшчацца вельмі блізка, ушчыльную да чаго-н.) *Дрэвы, як зялёныя вартавыя, агінаюць заставу з усіх бакоў, ушчыльную падступаюць да спартыўнай пляцоўкі* (Шыловіч), ПАДЫХОДЗІЦЬ *Злева, ледзь не да самай ракі, падыходзіў лес* (Асіпенка).— Зак.: **Падступіць, падысці.**

2. ПАДСТУПАЦЬ (да горла, да сэрца: нечакана з'яўляцца, раптам ахопліваць — пра адчуванні, пачуцці) *Відаць было, Міхалавы словы так узбунтавалі Комліка, што ён больш не валодаў сабой, лютасць падступала яму пад горла і душыла яго* (Карпаў), ПАДКОЧВАЦЦА разм. *Да сэрца падступала, падкочвалася нешта такое велізарнае, як жыццё* (Лынькоў), ПАДКОЧВАЦЬ разм. *Заўсёды ў такія хвіліны замілаванасць падкочвала да яе сэрца* (Дамашэвіч). *Горкі камяк падкочвае да майго горла* (Жычка).— Зак.: **Падступіць, падкаціцца, падкаціць.**

ПАДСТУПІЦЦА (звярнуцца да каго-н.) *Дзяўчатам хацелася загаварыць з лётчыцамі, але дзе ты да іх падступішся* (Няхай), ПРЫСТУПІЦЦА *Ціток загадаў абавязкова Параску прывесці. І калі тая сапраўды прыйшла, ён не ведаў, з якога боку да яе прыступіцца: яна і такая, яна і гэтакая* (Лобан).— Незак.: **Падступа́цца, прыступа́цца.**

ПАДУБ (вечназялёны паўднёвы куст ці невялікае дрэва з калючым лісцем і атрутнымі чырвонымі пладамі) *Толькі з краю, дзе пасуседску да платана прыткнулася калючае лісце падубу, на пяску жаўцела... пляма* (Хомчанка), ВАСТРАЛІСТ.

ПАДУМАЦЬ (правесці некаторы час, думаючы, абдумваючы, прыгадваючы, узважваючы што-н. у думках) *Дачка падумала і кажа:— Нічога, тата, заўтра што-небудзь прыдумаем* (Якімовіч), ПАМЕРКАВАЦЬ — *Падумаў, памеркаваў* [*дырэктар*], *а потым загад: зараць канюшыну! І зааралі* (Кулакоўскі), ПАКУМЕКАЦЬ разм. *Пакумекай сам: адзін я ўсё роўна сажалкі не выкапаю* (Рунец).

ПАДФАРБАВАЦЦА разм. (падфарбаваць губы, бровы, шчокі і пад.) *Лёдзя прыбралася, надушылася, падфарбавалася і нават прыйшла раней прызначанага часу* (Гроднеў), ПАДМАЛЯВАЦЦА разм. *Падмалявацца перад люстэркам*, ПАДМАЗАЦЦА разм. *Падмазацца перад вечарынкаю.*— Незак.: **Падфарбо́ўвацца, падмалёўвацца, падма́звацца.**

ПАДФАРБАВАЦЬ (губы, бровы, вейкі і пад.) *Скажы, з якіх яна палян Суніцы смактавала, Што вусны (Ты на вусны глянь) — Навек падфарбавала?* (Свірка), ПАДМАЛЯВАЦЬ (губы, бровы, шчокі і пад.) *Ускочаць з ложка, падмалююць бровы — і да трамваяў пабягуць сваіх* (Скарынкін), ПАДВЕСЦІ (вочы, бровы) *Юля доўга і, як звычайна, без поспеху майстравала прычоску перад люстрам, нарэшце, папудрылася, падвяла бровы* («Беларусь»), ПАДМАЗАЦЬ разм. (губы, шчокі, твар) *Прыгажосць яе была не тая паказная, якую часта можна было сустрэць у дзяўчат, падмазаных і падпудраных* (Сабаленка).— Незак.: **Падфарбо́ўваць, падмалёўваць, падво́дзіць, падма́зваць.**

ПАДЦЯГНУЦЬ безасабовае; разм. (жывот: зрабіць, упалым) *Я на лекцыях ледзь выседзеў. Есці — не магу, сліну гоніць, жывот пад спіну падцягнула* (У. Калеснік), ПАДВЕСЦІ разм. *Хлопцы есці хочуць так, што жываты падвяло* (Машара).

ПАДЧАПІЦЬ (зачапіўшы чым-н. вострым, прыпадняць) [*Стась*], *узяўшы лёгкае вясло, падчапіў ім расліну пад самае карэнне* (Дубоўка), ПАДДЗЕЦЬ *Большы* [*зубр*] *спыніўся каля веласіпеда, абнюхаў яго і, матлянуўшы галавой, паддзеў рогам за раму* (Хадкевіч) // (захапіць чым-н. падстаўленым знізу) *Ён* [*Паўлюк*] *палез уДанькаву запазуху і там падчапіў далонню, як каўшом, цэлую горку дзічак* (Караткевіч). *Паддзець фасоліну лыжкай.* — Незак.: **Падчэ́пліваць, падчапля́ць, паддзява́ць.**

ПАДЧАРЫЦА (няродная дачка мужа ці жонкі; родная з аднаго боку) *У першы ж дзень, выпраўляючы падчарыцу на працу, мачаха ёй сказала: Усе грошы будзеш аддаваць мне* (Гаўрылкін), ПАДЧАРКА разм. *Мачаха спаткала падчарку вельмі ласкава. Абняла, пацалавала* (Шамякін).

ПАДЧЫСТУЮ разм. (усё цалкам, нічога не пакідаючы) [*Мацей:*] *— На два сталы жывучы, грошай не збярэш. Усё ў пыл ідзе. Падчыстую* (Лобан), НАЧЫСТА *Спалілі фашысты ўсё начыста* (Сачанка), ДАЧЫСТА [*Глушак:*] *Леташняй восенню вымелі ўсё дачыста* (Мележ), НАЧЫСТУЮ разм. *Добра малаціць у такое надвор'е: начыстую выбіваецца збожжа пад жалезным цэпам* (Баранавых), ПАД МЯТЛУ разм. [*Пахомаў*], *зірнуўшы на Загорскага, прамовіў: — Укралі льносемя. Усё. Пад мятлу* (Шашкоў).

ПАДШЭРСТАК (пушыстая мяккая шэрсць, якая расце як ніжні слой пад больш доўгай шэрсцю) *Пад восцю* [*баброў*] *знаходзіцца падшэрстак — мяккае, шаўкавістае футра* (В. Вольскі), ПІЛЬСЦЬ *Цьмяным золатам ільсніцца пільсць кунічая!* (Дзяргай), ПУХ *Пух, або падшэрстак, уяўляе сабой самае тонкае валакно* («Таваразнаўства»).

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА***

1. Пабочныя словы і словазлучэнні звычайна знаходзяцца ў пачатку або ў сярэдзіне сказа і аддзяляюцца ці выдзяляюцца ў яго структуры пры дапамозе коскі: *Відаць, сягоння будзе дождж* (Змітрок Бядуля). *Адным словам, выгляд у нас быў сапраўдных паляўнічых* (І. Гурскі). *Маці, вядома, не прыходзіць з пустымі рукамі* (А. Васілевіч).

**Заўвага.** Пабочнае слова **мо** знакамі прыпынку не выдзяляецца: *Мо ў школу пойдзеш ты* (Якуб Колас).

Пабочныя сказы (злучнікавыя і бяззлучнікавыя) незалежна ад месца размяшчэння часцей за ўсё таксама аддзяляюцца або выдзяляюцца пры дапамозе коскі: *Як гавораць, сад калгасны дзед трымае на плячах* (А. Бялевіч). *Наколькі мне вядома, лясы Беларусі славяцца багаццем грыбоў і ягад* (В. Вольскі). *Тут нешта не так, разумееце...* (А. Асіпенка).

2. У залежнасці ад кантэксту некаторыя словы могуць выконваць пабочную функцыю (выдзяляюцца знакамі прыпынку) або выступаць як члены сказа (знакі прыпынку не ставяцца). Напр.: *Сапраўды, у хаце нікога не было* (пабочнае слова) і *Хата сапраўды красавалася сваім выглядам* (член сказа). *У журботную восень, здаецца, зямля ўся галосіць* (пабочнае слова) і *Пугач здаецца тлустым з выгляду* (член сказа).

Некаторыя словы, размешчаныя ў сярэдзіне або ў канцы сказа, выступаюць як пабочныя, а ў пачатку сказа — як злучнікі, напр.: *Мікола быў, між тым, дома* (Кузьма Чорны) і *На дварэ ноч. Між тым спаць не хочацца* (І. Мележ). *У лесе было холадна, аднак* (Б. Мікуліч) і *Свеціць сонца. Аднак на дварэ холадна.* (Т. Хадкевіч).

3. Калі пабочныя словы, словазлучэнні і сказы размешчаны непасрэдна за злучальнымі або падпарадкавальнымі злучнікамі, то яны выдзяляюцца коскамі без гэтых злучнікаў: *У Яўмена загарэліся шчокі, але, на шчасце, Надзя нічога не заўважыла* (І. Шамякін). *Вёска стаяла на скрыжаванні дарог і, само сабой зразумела, шмат чаго бачыла* (І. Гурскі).

Узмацняльныя часціцы ад пабочных слоў і словазлучэнняў не аддзяляюцца, а выдзяляюцца коскамі разам з імі, напр.: *Брыгада, і сапраўды, даўно стала яму і домам і сям'ёй* (І. Мележ). *А прызнацца, страшна было ў лесе* (Р. Мурашка). *Дождж, і праўда, так і паўзе за каўнер* (Я. Брыль). *А відаць, табе няёмка было гаварыць* (Кузьма Чорны). *А па-мойму, гэта не так дрэнна* (Змітрок Бядуля).

4. Пабочныя словы і словазлучэнні са злучнікамі-часціцамі **а, ці,** якія ўжываюцца для сувязі паясняемага і паясняючага членаў сказа, выдзяляюцца коскамі разам: *Змрочнай, а галоўнае, пустыннай здалася Андрэю свая хата* (П. Пестрак). *Кастусь бачыў, а праўдзівей, уяўляў, як здаровы загар ляжаў на твары* (Кузьма Чорны). *Скажыце, дзе вы бачылі Боўціка, ці правільней будзе сказаць, Боўць-Зязюлю?* (М. Лынькоў).

Калі пасля злучнікаў **ці, або,** якія звязваюць такія члены сказа, знаходзяцца пабочныя словы, то коска ставіцца не толькі перад злучнікамі, але і пасля іх: *З маленства жыццё не песціла Макара, або, як яго звалі, Макарку Васілёвага* (У. Краўчанка). *Там звычайна растуць ягады дурніцы, або, як называюць іх яшчэ, буякі* (М. Лынькоў).

**Заўвага.** Паясняючы член сказа, які знаходзіцца паміж злучнікам і пабочным сказам, выдзяляецца коскамі разам са злучнікам, напр.: *Трохметровы шомпал, або банік, як яго называюць у арміі, адзінока ляжаў каля плота* («Чырвоная змена»)..

*(Заканчэнне будзе).*

## Таямніца шастака

### Філалагічныя загадкі

На нашу «філалагічную» загадку пра шастака адгукнулася шмат чытачоў. На жаль, большасць адказаў сведчыць, што мы не ведаем сваёй гісторыі. Толькі таму маглі з'явіцца такія радкі: «На Беларусі шастаком звалі старадаўнюю расійскую грашовую адзінку, дакладней — алтын». І далей наш чытач робіць такую выснову: «Вельмі крыўдна, што нашыя продкі не мелі тады сваіх нацыянальных уласных грошай і павінны былі карыстацца расійскімі».

Але ж гэта не так! Наша дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае — мела свае грошы, сваю ўласную грашовую сістэму, якая адрознівалася ад грашовых сістэм суседзяў, пра што ўжо можна меркаваць з існавання сваіх назваў грошай.

Сённяшні дзесяцярычны тып ліку не быў калісьці адзіным. У розныя часы і ў розных народаў свету былі свае, адметныя сістэмы. Усе яны: дваічная, пецярычна-дзесяцярычная, чацвярычна-васьмярычная, лік тузінамі, лік капамі (як у нас яшчэ не так даўно) з'явіліся ў выніку вялікай абстрагіруючай працы чалавечага розуму. Бо найперш людзі звыклі выбіраць пэўныя эталонныя, калі можна так сказаць, адзінкі ліку: усе пальцы адной-ці абедзвюх рук або толькі чатыры пальцы, без вялікага.

І таму, скажам, 5 у некаторых мовах звязана з паняццем 'рука'. Лічбы, кратныя пяці, у такіх мовах могуць перадавацца словазлучэннямі 'абедзве рукі', 'увесь чалавек', 'чалавек гатоў' (апошнія дзве азначаюць лічбу 20). А вось 40 — 'два чалавекі'. Падобным чынам перадаюцца і лічбы пры ліку чацвёркамі. Прыкладам, 10 — 'дзве рукі і два вялікія пальцы'.

Тут узнікае пытанне: чаму нашыя продкі лічылі шасцёркамі: шастак, тузін, капа? Перш трэба заўважыць, што гэтая сістэма сведчыць пра надзвычай высокі ўзровень абстрактнага мышлення нашых продкаў: шасцёркамі і кратнымі ёй лічбамі лічыць не так проста, як пяцёркамі — на пальцах рукі. Да таго ж вырашэнне гэтага пытання вельмі важна і для пазнання нашага этнагенезу, паходжання, нашай гісторыі. Можна згадаць, што шасцёркамі, тузінамі, капамі (вядома, яны называліся іншымі словамі, але вартасць тая ж) лічылі старажытныя шумеры, народ, ад якога перанялі культуру грэкі, егіпцяне. А жылі шумеры ў Месапатаміі (тэрыторыя сучаснага Ірака) прыблізна чатыры тысячагоддзі да нараджэння Хрыста. Цікава, што супадаюць таксама іншыя элементы духоўнай і матэрыяльнай культуры нашага народа і шумераў: абрады дзеля павышэння ўраджаю, выкарыстанне звярыных шкур у абрадах, траістая музыка, чорная кераміка. Дык можа адтуль нашы 6, 12, 60?

Зрэшты, калі сягнуць у недалёкія XIII і XIV стагоддзі, то таксама можна знайсці шмат цікавага, што можа сведчыць пра рэальныя карані нашага шастака.

Шаміль Бекцінееў, беларускі археолаг і нумізмат, выказаў гіпотэзу, што ў Беларускім Падзвінні ў 2-й палавіне XIII і XIV стагоддзі існавала адметная грашова-вагавая сістэма. Яна, паводле яго меркавання, стала прататыпам агульнадзяржаўнай грашовай сістэмы ў нашым сярэдневяковым Вялікім Княстве.

А напачатку (XII—XIII ст.ст.) у Полацкім, Віцебскім, Друцкім, Лукомльскім княствах выкарыстоўвалася некалькі грашовых адзінак. Праз стагоддзе тут засталіся толькі дзве грашова-вагавыя сістэмы: ноўгарадская і літоўская (г. зн. беларуская). У Віцебскім княстве ў абароце знаходзіліся «літоўскія грыўні», пазней «літоўскія рублі» і іх фракцыі, якія мелі мясцовыя, адметныя назвы. Ш. Бекцінееў лічыць: «Пераходная віцебска-друцкая грашова-вагавая сістэма 2-й палавіны XIII — пачатку XIV стагоддзяў мела выгляд: рубель=105 нагатам (па 1,8 г)=189,0 г.; літоўская грыўня=60 нагатам=108 г.». «Літоўская грыўня» (у Віцебску яе называлі «ізрой») раўнялася 30 пражскім грошам, кожны з якіх быў варты 2 віцебска-друцкім «нагатам» або 6 «заушням» (па 0,6 г). (Прыкладам, за ўзважванне аднаго беркаўца воску, медзі ці волава нямецкі купец плаціў у Полацку адну заушню.) А яшчэ Ш. Бекцінееў знайшоў у Віцебску і Друцку цікавыя гіркі-разнавагі. Адна з іх вагой 10,8 г мае шэсць вочкаў (10,8:6=1,8 г — як нагата). Мо гэта ўжо быў прататып шастака?

**З. С.**

# «ЯК ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА ВЯСНОЮ...»

*(Гутарка з рэдактарам тэлечасопіса «Роднае слова» Уладзімірам Содалем)*

**— Спадар Содаль! «Роднае слова» жыве ўжо пятнаццаць гадоў. Ці памятаеце ўсе драбніцы, як рыхтавалі першую перадачу!**

— Дзіва што! Гаворка пачалася дзесьці зазімкам 1978 года, але выйшлі мы ў эфір толькі 29 красавіка 1979 года. У мяне было жаданне пачаць яе яшчэ пазней, з верасня. Хацелася больш грунтоўна падрыхтавацца, назапасіць сцэнарыяў, параіцца з мовазнаўцамі. Але Максім Лужанін, які падахвоціўся весці гэтую перадачу, сказаў: «Трэба пачынаць! Горш — лепш, але пачнём. Не будзем траціць часу і нагоды. Можа стацца, што праз месяц будзе позна...»

**— А ў каго нарадзілася ідэя гэтай тэлеперадачы!**

— Тэлечасопіс паўстаў з прыходам на працу ў Дзяржаўны камітэт БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні Генадзя Бураўкіна. Гэта ён найперш патурбаваўся, каб такі тэлечасопіс быў. Шмат гадоў ён асабіста, як старшыня Камітэта, апекаваўся ім, прымаў на сябе ўдары партакратаў, якім найчасцей было не даспадобы тое, пра каго і што гаварылася, паказвалася з блакітнага экрана. А калі гаварыць агулам — само жыццё паклікала «Роднае слова». Шмат зрабілі для станаўлення тэлечасопіса мовазнаўца Фёдар Янкоўскі, пісьменнікі Уладзімір Юрэвіч і Янка Брыль. Гэта на іх энтузіязме, іхняй энергіі рабіўся першы выпуск тэлечасопіса. А блаславіў яго Кандрат Крапіва.

**— Якую мэту Вы ставілі напачатку!**

— Сваё жыццё тэлечасопіс пачаў у тую пару, калі моўныя пытанні, у палітычным аспекце, не парушаў амаль ніхто: ні радыё, ні друк, ні наш «ЛіМ».

Напачатку важна было абудзіць, раскатурхаць грамадскую думку пра мову. Мы расказвалі ў перадачах пра вытокі роднай мовы, яе прыгажосць, пра нашых старажытных асветнікаў. Гэта дазвалялася. Мы знаёмілі гледачоў з тэарэтычнымі выкладкамі і канцэпцыямі разумення нацыянальных моў класікамі марксізму. Прыгадваюцца такія старонкі, як «Ленін і мова», мова перакладу «Маніфеста Камуністычнай партыі» ды іншыя. Праз іх выказванні мы сцвярджалі правы нашай мовы на шырокае грамадскае жыццё.

Гэта цяпер шмат якія газеты ды часопісы пішуць і гавораць пра мову. Маем нават Таварыства беларускай мовы і газету «Наша слова». А ў 1979 годзе тэлечасопіс «Роднае слова» быў адзіным у рэспубліцы такім грамадскім агніскам, пры якім хоць як вырашаліся моўныя пытанні.

Першым вядучым «Роднага слова» быў пісьменнік Максім Лужанін, затым перадачу вялі Пётра Садоўскі, Янка Саламевіч і іншыя.

**— Вы сказалі: старажытных...**

— І пра асветнікаў больш блізкага часу таксама, прыкладам пра Тарашкевіча. А вось пра Луцкевічаў і заікнуцца не маглі нават. Іх прозвішчы выкрэсліваліся. Гэтак жа і пра «Нашу Ніву» не дазвалялася згадваць. Цэнзары гаварылі: «Буржуазна-нацыяналістычная газета». І дадавалі: «Вы і сам нацыяналіст!»

**— І як жа былі сустрэты першыя выпускі!**

— Вельмі і вельмі прыхільна. Прыйшло шмат водгукаў: шчырых і вельмі ўсхваляваных, зацікаўленых.

**— А ці не маглі б Вы хоць адно з іх працытаваць!**

— З прыемнасцю. Архівам «Роднага слова» я даражу, збярог усё. Вось адзін з першанькіх водгукаў: «Высокапаважаная рэдакцыя беларускай тэлеперадачы «Роднае слова»! — пісаў Язэп Ермаковіч, муляр з вёскі Канюхі Маладзечанскага раёна.— Пасля прагляду першай перадачы які ж я шчаслівы, што мне давялося ўбачыць гэтую перадачу: па зместу разумную, па-мастацку прыгожую, па выкананні цікавую, а гістарычнавечную. Як першая ластаўка вясною прыносіць радасць кожнаму, хто яе ўбачыць, нягледзячы на тое, што мы яе бачым ад самага ранняга маленства кожную вясну і аж да восені, так і «Роднае слова».

Пісалі да нас людзі розных прафесій і заняткаў: рабочыя і інжынеры, настаўнікі і вучні, студэнты, мастакі. Асаблівай неспадзяванкай было, што на перадачу адгукнуліся некаторыя колішнія актыўныя заходнебеларускія дзеячы і асветнікі. Сярод іх — друкар і выдавец часопіса «Шлях моладзі» Янка Багдановіч, настаўніцы А. Сланеўская з Літвы, Э. Казакевіч з Латвіі, доктар Мікалай Марцінчык, стары заходнебеларускі байкапісец Язэп Вількоўскі, які друкаваўся пад псеўданімам Вількоўшчык.

**— Я пра такога і не чуў.**

— Спадар Вількоўскі прыслаў «Роднаму слову» не толькі аўтографы сваіх баек, друкаваныя і недрукаваныя, але і колькі сшыткаў слоўнічка слонімскіх гаворак. Ёсць там цікавыя рэчы...

**— І якую Вы абралі форму перадачы!**

— Напачатку гэта былі тэматычныя выпускі. Але мы мусілі перайсці на форму тэлечасопіса, каб ахапіць больш абсяг тэм, разнастаіць перадачу, зрабіць яе больш цікавай. Але гэта не выключала і не выключае тэматычных выпускаў.

**— І што ўдалося «Роднаму слову» за пятнаццаць гадоў!**

— Бачыце, гледачы «Роднага слова» адразу пачалі засяроджваць увагу на самым галоўным пытанні: «Чаму ў Беларускай Рэспубліцы такое незайздроснае становішча беларускай мовы?» І мы з адпаведнымі пытаннямі звярталіся ў самыя розныя высокія ўстановы.

**— Што ж вам адказвалі!**

— Лепей не ўспамінаць. Адказы і тады гучалі смешна. Сёння яны здаюцца яшчэ больш смешнымі і дзікімі. Якіх там выкрунтасаў не прачытаеш: і што «русская речь всем понятна. И нет необходимости вводить белорусский язык». І што беларускі народ не можа быць вялікім. І слова «вялікі», сказанае ў перадачы настаўніцай роднай мовы пра беларускі народ, нас змушалі вышкрабаць з відэастужкі. Пералічыць усе чыноўніцкія глупствы немагчыма.

Тэлевізійны часопіс «Роднае слова» прайшоў шлях ад моўнай паняверкі ў рэспубліцы да прызнання нашай мовы дзяржаўнай.

...На вуліцах сталіцы з'явіліся аўтобусы з беларускамоўнымі трафарэтамі... Беларуская мова гучыць у метро... Ужо каторы год выходзіць часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» — цяпер наш цёзка — «Роднае слова». У гарадах адчынены і школы з беларускай моваю навучання. Ва ўсім гэтым ёсць пэўны клопат і «Роднага слова», і яго гледачоў. Мы шмат зрабілі для ідэі надання беларускай мове статуса дзяржаўнай. А з прыняццем Закона аб мовах распавядалася, як увасабляецца Закон у жыццё.

**— Цяпер Вам нішто не замінае працаваць. Ёсць Закон аб мовах... Беларуская мова зацверджана дзяржаўнай канстытуцыйна.**

— Працаваць цяпер ніхто і нішто не замінае: ні цэнзура, ні тэлевізійныя чыноўнікі. Тым не менш працаваць цяжка. Маральна цяжка. Як паглядзіш па сесію Вярхоўнага Савета, як паслухаеш, што там гавораць дэпутаты пра мову, рукі апускаюцца, душа вяне... Усе нашы перамогі, усе нашы памкненні можна закрэсліць адным выступленнем якога-небудзь высокапастаўленага чыноўніка ці дзяржаўнага «дзеяча», якія па-ранейшаму ігнаруюць нашу мову. Вось гэта «Роднаму слову» не зразумела. Мова абвешчана дзяржаўнаю, а на дзяржаўным узроўні не прызнаюць, ігнаруюць. То як жыць, то як працаваць?

**— Ці бачыце Вы перспектыву перадачы!**

— «Роднае слова» мае патрэбу ў абнаўленні. Перадачы нестае добрага, улюбёнага ў роднае слова рэжысёра. Патрэбен «Роднаму слову» і малады, апантаны моваю, мабільны журналіст ці філолаг-мовазнаўца, лёгкі на пад'ём. Усё гэта абнавіла б перадачу.

**— А Вы! Няўжо збіраецеся пайсці!**

— На мне яшчэ ляжыць цыкл перадач «Тэлебачанне — школе» студыі «Ліцэй». Не атрасаю я рук і ад «Роднага слова». Я б рабіў акадэмічныя выпускі, а малады рэдактар мог бы пачаць які-небудзь моўны жывы тэлевізійны клуб з удзелам моладзі, з элементамі моўных гульняў, вікторын... Так што «Роднае слова» чакае такога юнака. Багаты, вельмі багаты летапіс у «Роднага слова». Яму яшчэ доўга доўжыцца, аж пакуль цалкам не ўсталюецца фактычна дзяржаўнасць роднай мовы ў рэспубліцы. Але і тады ў «Роднага слова» будзе непачаты край працы. Мова — гэта неабсяжны акіян.

**Распытваў З. СІЦЬКО.**

## Факультэт беларускай мовы і літаратуры Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута

**Кафедра беларускай мовы.**

На кафедры працуе 14 выкладчыкаў. З іх 4 — кандыдаты філалагічных навук, 4 — дацэнты, 3 — старшыя выкладчыкі, 7 — асістэнтаў. Да 1993 г. кафедрай загадваў дац. Несцяровіч Віктар Іванавіч, з 1993 — дац. Васюковіч Людміла Сяргееўна.

З публікацый кафедры: Несцяровіч В. І. (з сааўтарам) «Беларуская мова. 4 клас» (1989, 1991, 1993); Несцяровіч В. І., Васюковіч Л. С., Марозава Я. Н. «Беларуская мова. 5 клас» (1992); Злобін Л. І. (з сааўтарамі) «Беларуская і руская дыялекталогія. Вуч. дапам. для студэнтаў ВНУ» (1993).

**Кафедра беларускай літаратуры.**

9 выкладчыкаў: 4 — кандыдаты філалагічных навук, 5 — дацэнтаў, 1 — старшы выкладчык, 3 — асістэнты. Загадчык кафедры — дац. Русілка Вольга Іванаўна.

Кафедра распрацоўвае навуковую тэму «Творчая індывідуальнасць пісьменніка і спецыфіка нацыянальнага літаратурнага працэсу».

Факультэт рыхтуе настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры (на дзённым і завочным аддзяленнях) і з 1993 года — настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры і гісторыі (толькі на дзённым аддзяленні). У сувязі з гэтым з 1 верасня 1994 года факультэт будзе мець іншую назву: ФАКУЛЬТЭТ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ І ГІСТОРЫІ.

На дзённым аддзяленні вучыцца 392 студэнты, на завочным — 280 студэнтаў.

На факультэце працуюць навуковыя гурткі — літаратурна-творчы (дац. Канапелька А. М.), гісторыі лінгвістычных вучэнняў (дац. Арцямёнак Г. А.), этнолінгвістычны (Бабіч Ю. М.) і інш., а таксама — студэнцкі тэатр (Сівіцкі У. А.).

*Меркаванні*

## Скарына: Францішак ці Пранцішак?

Я лічу, што настала пара вярнуць выдатнаму беларускаму першадрукару, вялікаму вучонаму, пісьменніку і патрыёту Бацькаўшчыны, доктару Скарыне яго сапраўднае імя — Пранціш. Дарэчы, гэта не толькі мая асабістая думка. Так мяркуе, напрыклад, і замежны вучоны П. Рагач у сваім кароткім агля́дзе гісторыі Беларусі (1990 г., Клівленд — Нью-Йорк — Талін).

Як вядома, сёння на галоўнай магістралі нашай сталіцы вісяць шыльды «праспект Францішка Скарыны». Між тым, Скарыну сталі называць на польскі лад Францішкам толькі тады, калі ён прыехаў са слаўнага горада Полацка ў тагачасную сталіцу Польшчы Кракаў, дзе паступіў ва універсітэт. А пры пазнейшых вандроўках Скарыны па краінах Еўропы яго называлі лацінскім імем Францыск. Нічога, зрэшты, тут дзіўнага, бо лаціна тады панавала ў Еўропе. Дзіўна, чаму на згаданую акалічнасць дагэтуль не звярнулі самай пільнай увагі нашы даследчыкі? Здаецца, не выклікае сумненняў: па-польску Скарыну называлі Францішак, на лаціне — Францыск. Але яго сапраўднае, роднае беларускае імя — Пранціш.

Дадам, што ўжо ў савецкі перыяд нашага славутага земляка рускія сталінскія «вучоныя» называлі толькі Георгіем. Рабілася гэта, напэўна, каб выкрасці яшчэ адно славутае імя з нашай гісторыі, а затым даказаць, што Скарына — рускі. Навошта ж нам польскія, лацінскія транскрыпцыі ці руская фальсіфікацыя выдатнага імя патрыёта. Яго трэба, нарэшце, называць толькі беларускім імем — Пранціш.

**Генадзь ЛАНЕЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы,**
**сябра Менскага гарадскога клуба «Спадчына».**

## *Чаму б нам не пець...*

Песні — самая распаўсюджаная форма вакальнага мастацтва. Песня памагае нам жыць. Яна — душа народа. Шмат мы ведаем цудоўных народных песень. Кожная вызначаецца не толькі сваім асаблівым матывам, мелодыяй, але і зместам, словамі.

Калісьці мама мне гаварыла: «Запомні якую добрую песню, асабліва пра сваю маму, тату. І калі табе цяжка будзе, успомні тую песню і яна табе паможа».

Хацелася сказаць пра асаблівасць многіх цяперашніх песень. Вельмі шмат па радыё перадаюць іх на замежнай мове. Што ж, гэта не дрэнна. Мы не павінны адгароджвацца ад сусветнай культуры. Але тут узнікае праблема зместу, разумення слоў. Мусіць, не так шмат слухачоў, хто ведае замежныя мовы. Пра што пяюць? Гэта істотна. Існуе вельмі патрэбны спосаб. Спачатку коратка, фабульна, перадаць змест, пераклад на беларускую мову песні. Гэта датычыцца не толькі замежнай песні, але і сваёй, асабліва калі яна выконваецца з эфектам. Карысць ад гэтага будзе немалая. Яно і зразумела. Людзі праз песеннае слова лепш спасцігаюць, успрымаюць увогуле нормы чалавечых сацыяльных паводзін. Яны здольны сцвярджаць дабрыню, высокія пачуцці, а могуць і спрыяць разбэшчанасці, хамству, маральнаму разбурэнню асобы.

У астраўных народнасцей Акіяніі ёсць звычай: калі трэба зваліць тоўстае дрэва на дровы, то найбольш крыклівыя, з кепскім голасам туземцы залазяць на тое дрэва і па камандзе правадыра моцна крычаць. Ад гэтага дрэва высыхае і падае. Калі дрэвы ад дзікага ляманту паміраюць, то як могуць вытрымаць людзі?

**Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,**
**педагог.**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

**Своеасаблівым чынам стыхія народнай украінскай культуры ўвасобілася ў выразным і гнуткім еўрапейскім вершы Лесі Украінкі (1871—1913).**

*Леся УКРАІНКА*

**Я ЗНАЮ, ГЭТА ПРЫВІДЫ-ПАЧВАРЫ...**

**Я знаю, гэта прывіды-пачвары,—**
**Не час мне паміраці, знаю я.**
**Ды наляглі ўжо прадчування хмары**
**На сэрца: памірае ўжо душа мая!**

**Лятункі апранулі смутку шаты**
**І паняслі мяне ў маўклівы, дзіўны край,**
**І там прыняў мяне ў зялёныя палаты**
**Паніклых лоз і кіпарысаў гай.**

**Вуаллю чорнай жаласніцы-мары**
**Накрылі вочы мне ў адной з хацін.**
**І залунаці скаргі ў абшары**
**Маіх забытых песень-сірацін.**

**І песні прыляцелі на магілу**
**Рыдаць па сэрцы, што насіла іх:**
**Сустрэлі як гасцей іх людзі, міла,**
**Ды не прыняў ніхто іх за сваіх.**

*Пераклад з украінскай*
*Міколы АЎРАМЧЫКА.*

**ДАЎНЯЯ ВЯСНА**

**Была вясна вясёлай, шчодрай, мілай,**
**Праменнем грала, песціла траву,**
**Яна ляцела птушкаю стакрылай,**
**Яна спявала славу хараству!**

**Усё, усё наўкруг загаманіла,**
**Зялёны шум прыносіла вясна:**
**Спявала ўсё, смяялася, бруіла,**
**А я ляжала хворая адна.**

**Я думала: «Вясна для ўсіх настала,**
**Нясе яна дары жывым усім,**
**А для мяне дарунку не прыдбала,**
**Яна забыла на мяне зусім».**

**Не, не забыла! У маё аконца**
**Махнула белым яблыня крылом,**
**Зялёны ліст заміґацеў ад сонца,**
**Пялёсткаў снег узвіўся над сталом.**

**Прымчаўся вецер да маёй хаціны,**
**Ён пра вяснянку-волю заспяваў,**
**А з ім данёсся звонкі спеў птушыны,**
**І любы гай мне водгук свой даслаў.**

**Мая душа ніколі не забудзе**
**Таго дарунку, што вясна дала;**
**Здаецца, ў свеце не было й не будзе**
**Вясны такой, што за вакном цвіла.**

*Пераклад з украінскай*
*Эдзі АГНЯЦВЕТ.*

*Чыталі?*

# «ПАДЫМАЙСЯ З НІЗІН, САКАЛІНА СЯМ'Я»

Як і летась, беларускія часопісы затрымліваюцца з выхадам. Вось і першы сёлетні нумар «Беларускай мінуўшчыны» толькі нядаўна трапіў да падпісчыка. Сярод матэрыялаў, якія адкрываюць чарговую кніжку часопіса, па традыцыі — верш. За гэтым разам надрукавана «Маладая Беларусь» Янкі Купалы.

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі,*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!*

У рэдакцыйнай прадмове «З павагай да мінуўшчыны» новы галоўны рэдактар часопіса заўважае тыя змены, што маюць месца ў справе аднаўлення гістарычнай праўды: «Пасля абвяшчэння Рэспублікі Беларусь апублікавана столькі матэрыялаў з фактамі, падзеямі, ацэнкамі з гісторыі Бацькаўшчыны, колькі не змясціла ў сабе ўся гістарычная літаратура, выдадзеная за дзесяцігоддзі БССР». І далей: «Два працэсы, звязаныя з пераасэнсаваннем гісторыі, адначасова пайшлі ў грамадска-палітычным жыцці нашай краіны. Па-першае, перагляд метадалогіі даследавання, пошукі новых фактаў, новае паліталагічнае і філасофскае асэнсаванне мінулага, па-другое, выбуховы ўздым цікавасці людзей да гістарычных ведаў, фарміраванне нанава гістарычнай свядомасці грамадства».

Клопатам пра фарміраванне гістарычнай свядомасці прасякнута і гутарка, змешчаная пад рубрыкай «Мы і гісторыя». Субяседнік Анатоля Андруховіча — прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі. Дарэчы, згаданым матэрыялам часопіс плануе распачаць цыкл гутарак, скіраваных на вызначэнне велічнасці гісторыі беларускай дзяржавы. Радзім Гарэцкі падказвае і адзін са шляхоў да сапраўднай незалежнасці: «...калі адмовімся ад «старых «ідэалаў», якім пакланяліся — ад Суворава да Кнорына і іншых нядобразычліўцаў Беларусі, калі, нарэшце, навучымся паважаць дзяржаўныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню».

Безумоўна, увагу шырокага кола чытачоў прыцягне і публікацыя кандыдата гістарычных навук Сяргея Рассадзіна «Віціс літоўскі». У аснову яе пакладзены дакументы камісіі па вызначэнні дзяржаўнага герба Літоўскай Рэспублікі (1929—1934 гг.).

Адзначым, што дастойнае месца ў першым нумары часопіса займаюць матэрыялы, прысвечаныя 200-м угодкам паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Ёмістая падборка адкрываецца публіцыстычнай нататкай Святаслава Асіноўскага. Следам пададзены своеасаблівы каляндар паўстання — «Баявым шляхам». Адметнасць, выключнасць яго — у падказцы для краязнаўцаў: вось, маўляў, канкрэтная мясцовасць, вось вам штуршок для клопату па ўшанаванні пэўных фактаў гісторыі сваёй роднай старонкі. Спадзяёмся, што на публікацыю календара адгукнуцца дзейснай справай пухаўчане і ілюбанцы, бабруйчане, жыхары шматлікіх іншых мясцін, дзе даўней дзейнічалі славутыя паўстанцы Касцюшкі.

Анатоль Ростаў прапануе ўвазе чытачоў гістарычны партрэт Тадэвуша Касцюшкі «Русін племені беларусаў». А настаўнік гісторыі Анатоль Бензярук расказвае пра Крупчыцкі бой паўстанцаў. Вядомы даследчык беларускай даўніны, літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч прыадчыняе таямніцы часу з дапамогай публікацыі унікальных архіўных дакументаў, прысвечаных паўстанню Т. Касцюшкі.

Шэраг матэрыялаў згаданай падборкі носяць выразна краязнаўча-публіцыстычны характар. Здзіслаў Сіцько, у прыватнасці, расказвае пра вандроўку экспедыцыі па месцах бітваў паўстанцаў з рускімі войскамі («Да «ценяў Касьцюшкі»). Аўтар, смела сягаючы ў мінуўшчыну, падрабязна апісвае і сучасную занядбанасць гэтых славутых мясцін беларускай зямлі.

Нельга без хвалявання разглядаць і каляровую ўклейку, змешчаную ў першым нумары «Беларускай мінуўшчыны». Яна прысвечана клопату аб помніках гісторыі і культуры ў раёнах, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Галоўны захавальнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Валянціна Малюшына ў артыкуле «З чарнобыльскага пекла» расказвае пра стварэнне Чарнобыльскага фонду музейных экспанатаў. Да артыкула пададзены прыгожыя каляровыя ілюстрацыі.

Сярод краязнаўчых публікацый «Беларускай мінуўшчыны» — цікавы артыкул Міколы Дзелянкоўскага «Ліда — горад беларускі». Расказваючы пра сучаснасць і мінуўшчыну старажытнага беларускага горада, аўтар праілюстраваў матэрыял цікавымі фотаздымкамі горада, зробленымі ў пачатку XX стагоддзя.

Пра лёс генетыка і селекцыянера, нашага земляка Антона Жабрыка расказваецца ў нарысе журналіста Анатоля Мяснікова. Старажытную эканоміку ў артыкуле «Вугаль для Скіфіі» прадстаўляе вядомы археолаг Леанід Побаль. Артыкул аздоблены цікавымі і арыгінальнымі ілюстрацыямі.

Ёсць у «Беларускай мінуўшчыне» і перадрукі. У прыватнасці, артыкул «Культура Полацкага княства» М. Шчаглова з забараненага яшчэ да нядаўняга часу «Новага шляху» (дзевяты нумар за 1944 год).

Завяршаецца нумар паэтычнай падборкай вершаў Ларысы Геніюш. Пра яе прысутнасць у нумары рэдакцыя папярэдзіла яшчэ на другой старонцы вокладкі: «Не ўся спадчына Л. Геніюш вядомая чытачам. Прапануем яе вершы, якія ў зборніках не публікаваліся». Побач — партрэт пісьменніцы работы мастака П. Свентахоўскага. Вось толькі адзін з вершаў Л. Геніюш:

*Йду па Менску, нідзе*
*сваe мовы не чую,*
*Можа, сьцішана б'ецца пад*
*сэрцам яна?*
*Крывічам хочуць праўду*
*падкінуць чужую,*
*Але ж праўда ў народа адвеку адна!*

**Ганна ЦІТАЎКА.**

*Імпрэзы*

# На ніве Адраджэння

**25 сакавіка ў 160-й школе Менска адбылася святочная вечарына, прысвечаная 76-м угодкам БНР, якую арганізавалі і правялі менскі клуб «Спадчына» (старшыня А. Белы) і дырэктар школы Міхась Кухарчык.**

**З дакладам аб значэнні ўтварэння БНР выступіў народны дэпутат спадар Голубеў. Працягам яго выступлення сталі прамовы сяброў клуба «Спадчына», а таксама іх паэтычныя творы. Добра быў сустрэты прысутнымі гурт з БДУ «Тутэйшая шляхта». І хаця ў апошні час мы маем нямала музычных гуртоў, якія выконваюць беларускія народныя песні ў эстрадна-фальклорным рэчышчы, але, на маю думку, не многія з іх могуць спаборнічаць з «Тутэйшай шляхтай». У гурце ўдала спалучаюцца і музычны густ, і прафесіяналізм, і інтэлігентнасць.**

**Святочнаму настрою вечарыны спрыяла і канцэртная зала школы, якая была ўпрыгожана нацыянальнай сімволікай. І ўвогуле 160-я школа Менска мае добра афармленыя кабінеты беларускай мовы і літаратуры. Усе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Хочацца падзякаваць дырэктару школы спадару Міхасю Кухарчуку за яго руплівасць на ніве Адраджэння і выказаць спадзяванне, што такіх людзей на беларускай зямлі будзе з кожным годам усё больш і больш.**

**Вечарына закончылася выкананнем славутай песні «Магутны божа».**

**Л. ЭМІЛІТ.**

*ЧЫТАЛІ?*

# Беларуская «каменная музыка»

**У выдавецтве «Полымя» ў 1989 годзе з'явілася новая і надзвычай цікавая кніжная серыя «Помнікі беларускага дойлідства». Як вядома, Гётэ пісаў, што архітэктура — гэта застылая музыка. На мой погляд, «Полымя» паставіла перад сабой вельмі пачэсную задачу: паспрабаваць ажывіць беларускую каменную музыку. Трэба сказаць, што выдаўцы адмыслова справіліся са сваёй ганаровай задачай. Якраз аб гэтым найлепшым чынам сведчыць тое, што кніжкі згаданай серыі імгненна знікаюць у кнігарнях з паліц.**

**У маёй асабістай бібліятэцы з серыі маецца шэсць выданняў. Першая кніга, якую я купіў, быў проста унікальны аповед пра Нясвіж (У. А. Чантурыя, Ю. І. Казакоў. Архітэктурныя помнікі Нясвіжа: Гісторыка-архітэктурны нарыс. Мн., 1989). Адразу ж пасля знаёмства са зместам кнігі, якую я прачытаў залпам, нельга было ўстрымацца ад наведвання згаданых цудоўных і дзівосных мясцін гэтага горада, што стагоддзямі па праву лічыўся другой сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.**

**З кніжкай у руках я абышоў тады славуты палаца-замкавы ансамбль князёў Радзівілаў, парк, наведаў непаўторны тутэйшы касцёл Яна Бернардоні, агледзеў Слуцкую браму, ратушу, гандлёвыя рады, кляштарны комплекс бенедыктынак, усклаў кветкі да падножжа помніка Сымону Будному. Дарэчы, незабыўнае знаёмства з Нясвіжам натхніла мяне напісаць некалькі артыкулаў аб Сымоне Будным, якія неўзабаве былі надрукаваны ў газетах і часопісах.**

**Сярод кніг серыі, прысвечанай беларускай «каменнай музыцы», цяжка вылучыць якуюнебудзь, бо ўсе яны напісаны займальна і даходліва, маюць шмат ілюстрацый, планаў і схем. Але самае галоўнае, што, напрыклад, і кнігі У. В. Трацэўскага «Царквы-крэпасці ў Сынкавічах і Малым Мажэйкаве» і А. Трусава «Старадаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка», як і астатнія выданні серыі, не пакідаюць чытача абыякавым, бо аўтары змаглі перадаць у тэкстах сваe замілаванасць і зачараванасць гістарычнымі шэдэўрамі беларускага дойлідства.**

**Мікалай Гогаль тонка адзначыў: «Архітэктура — таксама летапіс свету: яна гаворыць і тады, калі ўжо нішто не гаворыць аб загінуўшым народзе». Як можна далучаць да такіх народаў беларусаў, калі ў нас ёсць матчына мова, найбагацейшая гісторыя і культура, адна з выдатных старонак якой — непаўторная «каменная музыка».**

**Выпускаючы серыю «Помнікі беларускага дойлідства», выдавецтва «Полымя» робіць вялікую і ганаровую справу, бо прапагандуе нашу неўміручую гістарычную спадчыну.**

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
г. Баранавічы.

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплiўцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 600 руб. у месяц ці 1800 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.

*Пародыі*

## Не хапіла духу

*Я падобны на Янку Купалу.*
Ул. МАРОЗ.

Я рыфмую задзірыста-ўдала,
У чытачоў аж па скуры мароз.
Так, я — выліты Янка Купала,
Не жартую, сцвярджаю ўсур'ёз.

Як паэт, я, магчыма, маленькі.
Ды, прайшоўшы па Менску вярсту
З дапамогай ягонай кавенькі,
Адчуваю, нібыта расту.

Хто там сёння пры сіле, пры ўладзе?
Хто там зноў модлы б'е кумачу?

*Міхась СКОБЛА*

Ёсць улада адна — цёткі Уладзі,
Больш ніякіх і знаць не хачу!

Распісаны мой дзень да хвілінак.
Верш складу — на спатканні бягу,
Бо ахвочы і я да Паўлінак.
Праўда, п'есы пісаць не магу.

Нівы песеннай чэзнуць барозны.
Я жаданняў сваіх не ўтаю:
«Адшкадуйце, сучаснікі, бронзы —
Я да лепшых часоў пастаю».

Разышоўся пра тое, пра гэта —
Аж знямог. Накрычаўся і знік.
Паўтарыць жа, што *«я не паэта...»*
Не адважыўся бравы двайнік.

## ГАНАК ЭНТУЗІЯСТАЎ

*Тлумачэнне: Плошча здадзена ў часовую арэнду шынком «У Лявона» дзеля атрымання магчымага задаткавага смехавага прыбытку.*

*На ўсялякі выпадак прыгадаем этымалогію, ці,па-нашаму кажучы, паходжанне аднаго з найбольш ужываемых (пасля «камунізму», «светлай будучыні», вядома ж), савецкімі прапагандыстамі слоўца — энтузіяст. Не, гэта не назоў выніку скрыжавання ўраджэнца Турцыі з прадстаўніком Азіі, як нехта думаў, а толькі вытворнае ад грэцкага* enthusiasmos *(найвышэйшае натхненне, захапленне). Дадаём суфікс —* ast *і атрымліваем азначэнне надзвычай захопленага нейкай думкай ці мэтай чалавека.*

**Правіла (крэда) сапраўднага энтузіяста**

Хочаш, каб цябе абралі ў начальнікі, абяцай светлую будучыню кожнаму і рабі выгляд, што толькі табе заўсёды зразумела ўсё.

**Покліч энтузіястаў**

Кожнаму народу такога Жырыноўскага, якога ён заслугоўвае!

**Афарызм энтузіястаў**

Не ўсякі Жырыноўскі — Вольфавіч. Не ў кожнага Лукашэнкі — «Славянский Собор».

**Загадка энтузіястам**

Што б гэта азначала:
Зона «У Лявона», а рубель у Маскве?

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**18 ТРАЎНЯ, СЕРАДА**

18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Пяць зорак». Тэлегульня.
21.00. Панарама.
22.00. «Семнаццаць імгненняў вясны». Мастацкі фільм. 12-ая серыя.
23.25. НІКа.
23.40. «Камаедзіца-94». Фестываль сатыры і гумару.

**19 ТРАЎНЯ, ЧАЦВЕР**

10.10. «Камаедзіца-94». Фестываль сатыры і гумару.
13.30. Навіны.
15.15. Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. Помнікі культуры на Беларусі.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
20.10. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
21.00. Панарама.
23.25. НІКа.
23.40. «У джазе толькі дзяўчаты». Мастацкі фільм.

**20 ТРАЎНЯ, ПЯТНІЦА**

13.30. Навіны.
16.30. «На крылах кажана». Пазнавальна-забаўляльная гульня для старшакласнікаў.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Рок-айленд-шоу. Музычная праграма з удзелам груп «ДДТ», «Мясцовы час» і іншых.
21.00. Панарама.
23.45. НІКа.

**21 ТРАЎНЯ, СУБОТА**

15.55. «Усе мы родам з дзяцінства». І Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль юных талентаў. Частка першая.
17.25. «Случанка». Сустрэча з паэтэсай В. Аколавай.
18.25. Гінес-шоу.
21.00. Панарама.
21.45. «Гонар сям'і Прыцці». Мастацкі фільм (ЗША).
23.55. НІКа.

**22 ТРАЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

15.15. «Усе мы родам з дзяцінства». І Рэспубліканскі тэлефестываль юных талентаў. Частка другая.
16.45. Гінес-шоу.
20.00. Панарама.
21.10. «Пан Валадыеўскі». Мастацкі фільм (Польшча).

## ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

* * *

Прыходзіць бабка да лекара:
— Што вы робіце кожны дзень у адзінаццаць вечара?
— Іду спаць у ложак.
— Вельмі добра! А што вы робіце раней?
— Сплю перад тэлевізарам.

* * *

— І што сказаў лекар? — пытае муж у жонкі.
— Загадаў памяняць клімат і параіў выехаць у Альпы або Пірэнеі. Куды выберамся?
— Да другога лекара.

* * *

У парыжскім бары сядзіць пры століку моцна п'яны мужчына і ўлівае ў сябе кілішак гарэлкі за кілішкам.
— Ці вы знаеце,— звяртаецца да яго іншы мужчына ад суседняга століка,— што кожны год ад гарэлкі памірае 7 тысяч французаў?
— Мяне гэта не датычыць; я — беларус.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Заказ 74.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7730 паасобнікаў
Падпісана ў друк 16.05.1994 г.
у 15 гадзін.